# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень — 27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

25 сакавіка 2016 года №13 **(1091)**







З Вялікаднем!





# Дзіця збегла з дому

**Дзякуючы рацыі "Зела"яго знайшлі за лічаныя хвіліны**

старонка 2

Фота Настассі РОЎДЫ.

## Расклад руху цягнікоў ад 27 сакавіка 2016 года

старонка 20

## 90-гадовы сын Якуба Коласа разам з дачкой прыехаў у Маладзечна

старонка 2





## Ураджэнка нашага рэгёна, якая жыве ў Бельгіі, распавядае пра тэракт

**"Слухаю навіны з самай раніцы. Ад самай раніцы ўсе на нервах", – паведамляла знаёмая "РГ", ураджэнка нашага рэгёна, 22 сакавіка.**

Дачка нашай суразмоўцы якраз раніцай у аўторак была на курсах англійскай мовы, якія праходзілі проста каля станцыі метро Мальбек. Пасля выбуху вуліцы зачысцілі, таму дзяўчына некалькі гадзін была "блакіраваная" ў адной з сяброўкак, якая жыве каля школы.

Малодшая дачка ехала на цягніку, які спыніўся на пад'ездзе да горада. Грамадскі транспартны рух у аўторак цалкам спынілі, таму па яе ехалі на машыне.

Пра інфармацыю, якую некалькі гадзін у аўторак транслявалі некаторыя СМІ пра датычнасць да арганізацыі тэракта беларусаў, яна не ведала. "Тут пра гэта не гавораць, упершыню чую ад вас", – адказала суразмоўца "РГ".

Яна назвала такую версію нечаканай і адзначыла, што "ідзе следства, дадзім магчымасць спецыялістам рабіць іх працу".

### Пра датычнасць беларусаў адказаў КДБ

У аўторак вечарам беларускі КДБ пракаментаваў тэлеканалу "Беларусь 1" версію аб датычнасці беларускіх грамадзян да тэракту ў Бельгіі. Начальнік прэс-службы **Дзмітры Пабяржын** адказаў, што адзін з братоў, якім прыпісвалі злачынства, 22 сакавіка быў у Гомелі. Што тычыцца двух іншых фігурантаў, якія ў аўторак былі ў Бельгіі, праверку іх датычнасці беларускі КДБ прапануе адрасаваць бельгійскім калегам.

У сераду бельгійскія СМІ абвясцілі пра іншых трох асоб, якіх падазраюць у тэракце. Дзвюх з іх лічаць смяротнікамі, а трэцюю арыштавалі.

### Тэракт у Бельгіі – больш за 30 загінулых

Як паведамляла БелаПАН, раніцай у аўторак, 22 сакавіка, у брусэльскім аэрапорце Завентэм у зале вылетаў адбыліся два выбухі. Пасля стала вядома аб выбуху ў метро на станцыі Мальбек. Яна размешчаная каля "еўракварталa" – у раёне будынкаў Еўракамісіі і Савета ЕС.

Па стане на сераду, 23 сакавіка, вядома пра больш за 30 загінулых і больш за 200 параненых у выніку выбухаў.

У Брусэлі ўвялі чацверты, найвышэйшы ўзровень тэрарыстычнай пагрозы. Адказнасць за выбухі на сябе ўзяла групоўка "Ісламская дзяржава".

У Бельгіі была абвешчаная трохдзённая жалоба.

**Аддзел інфармацыі.**

ТЭМА НУМАРА

# Як знайсці дзіця, якое збегла з дому, за лічаныя хвіліны?

## Звярнуцца да суперагента ці ў рацыю "Зела"

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзякуючы кіроўцам, якія карыстаюцца мабільнай рацыяй "Зела. Без тармазоў. Маладзечна".**



Фота Насцасі РОЎДЫ

Рацыя, якую можна ўсталяваць у сваім тэлефоне, аднойчы можа саслужыць добрую службу не толькі ў падказцы становішча на дарозе.

Васьмігадовага хлопчыка, які збег з дому, удалося знайсці літаральна за 15 хвілін.

Гісторыя адбылася ў пятніцу днём. Мама нешта не так сказала сыну. Ён пакрыўдзіўся і сказаў, што сыдзе з бацькоўскага дому. Пакуль маці займалася сваімі справамі, дзіця і сышло.

У рацыю звярнуўся бацька дзіцяці. У паведамленні, якое пакінуў мужчына, ён сказаў пра тое, што згубіўся хлопчык, на выгляд 7-8 гадоў. Быў апрануты ў чорную куртку і шэрыя спартыўныя штаны. Просьба да ўсіх, хто яго бачыў, паведаміць.

Адразу да пошукаў далучыліся некалькі чалавек, якія сталі ездзіць па горадзе, шукаць уцекача.

Праз 15 хвілін адзін з карыстальнікаў рацыі запытаўся, ці можа быць у хлопчыка жоўтазялёны трактар у руках. Бацька хлопчыка адгукнуўся, што гэта 100% ён.

Хлопчыка знайшлі ля магазіна "Водар хлеба".

Гэту гісторыю "Рэгіянальнай газеце" расказаў карыстальнік рацыі **Дзмітры.**

Пасля мама хлопчыка, якая пажадала застацца невядомай, расказала "Рэгіянальнай газеце", што насамрэч хлопчыка шукалі амаль гадзіну:

– Я ледзьве не пасівела за гэты час. Муж працуе не ў горадзе, я спачатку патэлефанавала яму. Ён сказаў, што тэрмінова выязджае дадому. Пакуль муж ехаў, я сама села за руль і ездзіла па горадзе ў пошуках сына.

Потым мужчына сцяміў звярнуцца ў рацыю.

– Сам ён карыстаецца кожны дзень. Але толькі праз некаторы час падумаў, што можна скарыстацца ёй па прамой патрэбе. Наколькі я ведаю, бо размаўляў муж, на нашу просьбу адгукнулася з дзясятак кіроўцаў.

Карыстальнік з імем **Fate_gambler** ехаў па Вялікім Гасціцы, калі ўбачыў сына на ўзбочыне. Па тым, што ў яго руках быў трактар, здагадаўся, што гэта ён.

Мама хлопчыка расказвае, што яе "ўцякач" ужо сам ішоў дадому, бо захацеў у прыбіральню.

– Я ў той дзень так разгубілася, што нават не спыталася імя кіроўцы, які знайшоў майго сына. Таму цяпер хачу аддзячыць усім, хто адгукнуўся. Кіроўцы з рацыі зрабілі вялікую справу.

**Наталля ТУР.**

# 90-гадовы сын Якуба Коласа прыехаў у Маладзечна, каб сустрэцца са слухачамі курсаў "Мова Нанова"

МАЛАДЗЕЧНА

**У канферэнц-залу бібліятэкі "Верасок" зайшоў ён… І зала ўстала.**

Пад апладысменты, павольна, парог пераступіў госць курсаў "Мова Нанова"… **Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч**, сын **Якуба Коласа**, зяць **Янкі Маўра**.

У Маладзечна ён завітаў, вядома, не адзін. Міхася Канстанцінавіча суправаджала яго дачка, **Марыя.**

У гэты дзень сын Якуба Коласа больш расказваў пра свайго цесця, Янку Маўра.

Нагодай для расповеду стала прэзентацыя кнігі жонкі Міхася Міцкевіча **Наталлі Міцкевіч**: "Доўгая дарога ад дома Янкі Маўра да дома Якуба Коласа".

Пра жыццёвыя гісторыі, якія здараліся ў сям'і класікаў беларускай літаратуры і якія ўвайшлі ў кнігу ўспамінаў жонкі Міхася Міцкевіча, і расказваў наш госць.

Янка Маўр заахвочваў сваіх дзяцей да чытання марожаным. Даваў грошы на марожанае толькі пасля таго, як маленькая Наталля прачытае 15 старонак якой-небудзь кнігі і затым перакажа яе бацьку.

– Дзядуля і мне не аддаваў так проста маркі з канвертаў, якія прыходзілі да яго з усяго свету, – далучаецца да ўспамінаў Марыя Міхайлаўна. Янка Маўр быў вядомым эсперантыстам і вёў перапіску з многімі эсперантыстамі свету. Але калі я хацела атрымаць марку, дзядуля казаў, што аддасць яе толькі пры ўмове, што я буду ведаць нешта пра тую краіну, адкуль прыйшоў ліст.

А запаветнай марай у Янкі Маўра была мара аб'ехаць усе рэкі свету. Нават зрабіў сабе сшытак для запісаў, які не прамакае.

Расказваў Міхась Міцкевіч і пра сваё знаёмства з жонкай. Наталля вучылася ў Маскоўскім авіяцыйным інстытуце. А пропуск аднойчы забылася дома, калі прыязджала на канікулы. Ведалі, што Міхась паедзе ў Маскву, папрасілі перадаць.

– Прыйшоў у аўдыторыю, пытаюся, дзе тут Фёдарава. Выходзіць маленькая, худзенькая дзяўчынка. А я ёй па маладосці кажу: "А на фотаздымку ты прыгажэйшая". На фотаздымку круглая, поўная. Ну, а потым сталі сустракацца.

Неяк Міхась Міцкевіч пажартаваў над бацькамі. Папрасіў Наталлю сказаць свайму бацьку, Янку Маўру, каб павіншаваў Коласа з тым, што яго сын жэніцца. А сам папрасіў Якуба Коласа павіншаваць Янку Маўра з тым, што яго дачка выходзіць замуж.

Янка Маўр выпытаў у Наталлі, што яна сабралася замуж за Міхася, а Колас ні пра што не здагадваўся.

І вось калі Янка Маўр пры сустрэчы запытаўся ў Коласа, што будзем рабіць з дзецьмі, Колас адказаў: "Твае дзеці, што хочаш, тое і рабі".

Янка Маўр вярнуўся дадому, расказаў сваёй жонцы пра гэта, тая ў плач: "Колас не хоча, каб нашыя сем'і парадніліся".

Мы ўсе памятаем, з якім пачуццём гумару Якуб Колас пісаў свае творы. Дастаткова прыгадаць, напрыклад, урывак пра "Дзядзьку ў Вільні" з паэмы "Новая зямля".

Яшчэ Якуб Колас пісаў выдатныя эпіграмы на ўсе выпадкі жыцця.

Чаго вартая толькі гэта, прызнанне ў каханні ўласнаму носу:

*Мой нос – вяшчун даўно вядомы.*

*Калі ён зранку засвярбіць,*

*Дык так і ведай, мой каханы,*

*Што ўвечары ты будзеш п'яны.*

*Дык як жа нос мне не любіць?*

Але і сам Міхась Міцкевіч у пачуцці гумару не саступаў свайму знакамітаму бацьку.

Расказвае:

– Адназначалі мы вяселле старасты нашай групы. Купілі ў падарунак набор сярэбраных лыжак. Ну гэта ж нецікава. Трэба ж нешта на памяць. Памятаю, пайшоў на рынак, там купіў ката-капілку з такой паганай мордай. Вяселле ў разгары, троху падпілі. Надыходзіць час дарыць падарунак. Я кажу: "Дарагі Ося!"Мы жывём у эпоху сацыялізму. А сацыялізм – гэта кантроль і ўлік. Таму, калі пойдзеш да жонкі, ты кожны раз кідай капейку ў капілку. У канцы жыцця даведаешся, колькі разоў за ўсё жыццё ты любіў сваю жонку.

Сустрэча з Марыяй Міхайлаўнай і Міхасём Канстанцінавічам расцягнулася амаль на дзве гадзіны.

Напрыканцы – агульныя фотаздымак.

Міхась Канстанцінавіч дае парады фатографу:

– Далей адыдзіцеся, не так аб'ектыў трымаеце…

А ў аўтографе, што пакінуў на развітанне, напісаў: " На ўспамін аб сустрэчы".

Хіба ж забудзешся пра яе?

**Наталля ТУР.**

# У прызёрах конкурсу маладых повараў амаль адны хлопцы

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

**Як так атрымліваецца і чаму не трэба давяраць серыялу "Кухня", расказвае Дзмітры Клімашэўскі з Маладзечна.**

Ён другі год запар займае другое месца ў абласным конкурсе повараў. На гэты раз у пачатку сакавіка ў Слуцку стаў прызёрам абласнога этапу рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства "WorldSkills Беларусь" па прафесійнай кампетэнцыі "Кулінарнае мастацтва".

У ім удзельнічалі прадстаўнікі 12 каледжаў і ліцэяў Міншчыны узростам да 21 года.

– Гэты конкурс для мяне больш як праверка сваіх сіл і навыкаў – таго, як умею кантраляваць працэс гатавання, – кажа Дзмітры.

На конкурсе ўдзельнікі мусілі прадэманстраваць аўтарскі погляд на сучасную беларускую кухню. На гэта ім адводзіліся тры гадзіны.

Адразу трэба было прыгатаваць фуршэтную закуску. Дзмітры прадставіў на суд журы равіёлі з буракоў са свіной пячонкай. На другім этапе, дзе трэба было прапанаваць гарачую страву са свойскай птушкі, ён прыгатаваў качыную грудку су від з печанай грушай і віннакававым соусам.

**– Ці доўга рыхтаваліся да конкурсу?**

– Нядоўга.

> Стравы нарадзіліся за адзін вечар шляхам мазгавога штурму з маім сябрам.

Калі паглядзець спіс пераможцаў конкурсу за два гады, то ў ліку лепшых толькі адна дзяўчына, астатнія – хлопцы. Хоць удзельнікаў прыкладна напалову.

**– Чаму так атрымліваецца, што хлопцы бяруць амаль усе прызы?**

– Лічу, што прафесія повара – гэта менавіта мужчынская прафесія. Неяк так выйшла, што з-за шэрагу прафесійных крытэрыяў лепшыя повары – мужчыны. Гавару гэта не ў крыўду дзяўчатам і жанчынам. І ў каледжы сапраўды з групы хацелі вывучыцца на повара менавіта хлопцы.

### Поварам стаў невыпадкова

Прафесію маладзечанец выбіраў свядома. І кажа: "Ганаруся ёй".

– Яна мне падаецца: займальная і цікавая. Ды і з самага дзяцінства многіх зачароўвае гэтая прафесія. Вырашыў, што было б нядрэнна стаць прафесіяналам у ёй.

Вучыўся на повара Дзмітры ў Маладзечанскім дзяржаўным каледжы. Дзеліцца, што вялікі ўклад у яго навучанне ўнесла майстар вытворчага навучання **Алена Казакова:**

– Яна шмат уклала ў мяне сіл і ведаў. Вельмі ўдзячны ёй за дапамогу і прывітую любоў да прафесіі.

**– Як да серыяла "Кухня" ці іншых фільмаў на падобную тэматыку ставіцеся?**

– Серыял гляджу рэдка, але часцяком там не зусім праўда. Бо, перш за ўсё, гэта серыял і толькі потым – прафесійная кухня.

Дзмітры – выпускнік каледжа, цяпер на адпрацоўцы стараецца ў Мінску. Прафесію сваю кідаць не збіраецца. Нават думае ў вольны час яшчэ папрацаваць афіцыянтам, каб убачыць кухню па той бок раздачы.

### У прызёрах – яшчэ адзін зямляк

Яшчэ адзін зямляк, навучэнец Вілейскага дзяржаўнага каледжа **Павел Станкевіч**, заняў на конкурсе ў Слуцку трэцяе месца.

– Павел – мэтанакіраваны хлопец, шмат разоў удзельнічаў у конкурсах прафесійнага майстэрства. У гэтым годзе ён заканчвае каледж і марыць стаць шэф-поварам уласнага рэстарана. Падрыхтавала яго для ўдзелу ў конкурсе майстар вытворчага навучання **Ала Дарошка**, – паведаміла культарганізатар каледжа **Святлана Мацукевіч**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота забяспечана Дзмітрыем КЛІМАШЭЎСКІМ.

Прафесію повара Дзмітры Клімашэўскі выбіраў свядома.



Фота забяспечана Дзмітрыем КЛІМАШЭЎСКІМ.

Падобную страву Дзмітры прыгатаваў і на конкурсе.

**Даведка "РГ". Су від** – з французскай "пад вакуумам" – метад прыгатавання ежы, пры якім мяса ці гароднiна змяшчаюцца ў пластыкавы пакет з адпампаваным паветрам і павольна гатуюцца пры параўнальна нізкай і дакладна кантраляванай тэмпературы, звычайна на вадзяной лазні.



| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 17.03 | 24.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 20 725,00 | **20 161,00** |
| Еўра | 22 972,00 | **22 566,00** |
| Злоты | 5 352,47 | **5 317,15** |
| Расійскі рубель | 291,75 | **297,89** |
| Грыўня | 769,30 | **776,91** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 23.03** | | |
| Еўра | 22700/23000 | **22400/22700** |
| Долар ЗША | 20500/20750 | **20000/20220** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 16.03 | 23.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 169 900 | **169 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 900 | **28 900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | **85 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 44 900 | **44 900** |
| Селядзец, 1 кг | 47 000 | **59 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 138 000 | **138 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 18 900 | **18 900** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 500 | **16 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 900 | **7 500** |
| Часнок, 1 кг | 73 500 | **77 000** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 15 900 | **23 000** |
| Морква, 1 кг | 6 500 | **7 500** |
| Баклажаны, 1 кг | 49 900 | **59 000** |
| Лімоны, 1 кг | 39 900 | **39 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 500 | **27 000** |
| Мандарыны, 1 кг | 27 000 | **25 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 23 500 | **24 500** |
| Ківі, 1 кг | 31 500 | **26 500** |
| Буракі, 1 кг | 5 000 | **5 900** |
| Памідоры, 1 кг | 28 000 | **28 000** |
| Агуркі, 1 кг | 34 000 | **35 000** |
| Перац, 1 кг | 75 000 | **74 900** |
| Вінаград, 1 кг | 35 000 | **35 000** |
| Бананы, 1 кг | 25 000 | **26 900** |
| Хурма, 1 кг | 49 500 | **49 500** |
| Шампіньёны св., 1 кг | - | **54 900** |
| Яблыкі, 1 кг | 13 000 | **13 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 500 | **26 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 60 000 | **60 000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **2 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

## Не ўлічыў умовы надвор'я і наехаў на пешахода

**МАЛАДЗЕЧНА**

У суботу, 19 сакавіка, каля 21:00 36-гадовы маладзечанец ехаў на "Аўдзі 100" па вуліцы Віленскай у бок Янкі Купалы.

Паблізу дома №139 кіроўца не ўлічыў умовы надвор'я, заснежанасць асфальту, няправільна абраў хуткасць руху і наехаў на пешахода. 23-гадовы маладзечанец пераходзіў дарогу справа налева па пешаходным пераходзе на зялёны сігнал святлафора.

Малады чалавек атрымаў шматлікія раны. Яго адвезлі ў прыёмнае аддзяленне бальніцы і пасля аказання дапамогі адпусцілі дамоў.

Кіроўца "Аўдзі 100" быў цвярозы. ДАІ праводзіць праверку.

## "Калі б не хуткасць 40 км у гадзіну..."

**МАЛАДЗЕЧНА**

У суботу, 19 сакавіка, каля 22:30 36-гадовы маладзечанец рухаўся па дарозе Мінск–Маладзечна–Нарач у бок Мінска на аўтамабілі "Додж-Калібер".

Па вуліцы 17 Верасня у Красным каля дома №101 на закругленні дарогі ўлева ён не змог кантраляваць машыну, бо не ўлічыў умовы надвор'я, снегапад, стан аўто і хуткасць руху. Кіроўца выехаў насустрэчку, дзе сутыкнуўся з "Рэно-Лагуна", якім кіраваў 19-гадовы жыхар Маладзечанскага раёна.

Кіроўцы засталіся цэлыя, на машынах – механічныя пашкоджанні.

Як адзначаюць самі кіроўцы, сур'ёзных наступстваў ДТЗ удалося пазбегнуць дзякуючы таму, што абодва рухаліся з хуткасцю 40 кіламетраў у гадзіну.

Пра аварыі распавёў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош.**

## Маляваў графіці на сценах дамоў і машыне

**ВІЛЕЙКА**

Пасля праверкі 21 сакавіка ўзбудзілі крымінальную справу за хуліганства ў дачыненні да маладога жыхара вёскі Папоўцы. Падазраюць, што ён з хуліганскіх мераў нанадпітку маляваў графіці ў Вілейцы.

Каля дзевяці вечара 8 сакавіка ў пад'ездзе дома №9 па вуліцы Гагарына хлопец з выкарыстаннем аэразольнага балончыка зрабіў на сцяне надпіс. Потым непадалёку пакінуў надпіс на шкле аўтамашыны "Фольксваген-Пасат". Завяршыў справу на сцяне дома па вуліцы Камарова.

Хоць і адбывалася гэта 8 сакавіка, ён не прызнаваўся гэткім чынам у каханні да прыгожай паловы чалавецтва.

– Хлопец маляваў кароткія надпісы на англійскай мове. Потым патлумачыў, што гэта абрэвіятура мясцовага футбольнага клуба, фанатам якога з'яўляецца, – расказаў начальнік Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў.**

Нанёс хлопец шкоды больш за мільён рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Выносяць ад свініны да ноўтбука

**ВІЛЕЙКА**

Зафіксаваныя крадзяжы ў Вілейцы, Даўгінаве і Куранцы.

Раніцай 14 сакавіка нехта адціснуў акно і пранік у дом жыхаркі Вілейкі. Адтуль скраў планшэт, ноўтбук, дарожную сумку і прадукты харчавання. Страты перавысілі восем мільёнаў рублёў.

У ноч на 15 сакавіка ў двары дома ў Даўгінаве злодзей пранік у гаспадарчую пабудову. Там з маразільніка вынес 17 кілаграмаў свініны.

15 сакавіка ў міліцыю звярнуўся жыхар Вілейкі. Ён паведаміў, што ад 12 да 15 сакавіка ў вёсцы Куранец злачынец пранік у дом, што будуецца. Адкуль скраў электрадрыль, электралобзік і фрэзерны станок – усяго на суму каля пяці мільёнаў рублёў.

Па ўсіх фактах райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальныя справы.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Прымусіў знаёмага аддаць доўг

**ВАЛОЖЫН**

Здарэнне адбылося 18 снежня мінулага года. Галоўныя дзеючыя асобы гэтай гісторыі – два жыхары Івянца.

Была ў іх адна агульная знаёмая. Спачатку адзін мужчына сустракаўся з ёй і пазычыў 600 тысяч рублёў. Потым жанчына сустрэла іншага мужчыну. Каханне прайшло, а доўг застаўся.

Новы каханы вырашыў вярнуць доўг сваёй даме сэрца. Прыйшоў да сапернікa і прымушаў яго вярнуць грошы.

Не вымагаў, а менавіта прымушаў у форме, якая не ўяўляла пагрозы жыццю і здароўю.

– Ён некалькі разоў паўтараў: "Вярні доўг, вярні доўг", – тлумачыць следчы Валожынскага РАСК **Ілля Глінскі,** – і некалькі разоў нямоцна штурхаў і біў даўжніка.

Той частку доўгу ўсё ж такі вярнуў. Але звярнуўся ў міліцыю. Цяпер шукальніку справядлівасці пагражае да шасці год пазбаўлення волі. Справа накіравана ў суд.

**Наталля ТУР.**



Бойка можа пачацца з любой дробязі. Можна не так паглядзець, не даць цыгарэту і атрымаць у зубы.

# "Не так паглядзеў"

## За гэта збіў 13-гадовага хлопчыка

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Падлеткавая злачыннасць працягвае расці. Тэндэнцыя не мяняецца ад 2013 года.**

Начальніка інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага РАУС **Сяргея Шытыку** асабліва хвалююць хуліганствы. Маладзечанскі раён адзін з лідараў у вобласці па іх колькасці.

– Палова злачынстваў 2015 года – крадзяжы. І вельмі мяне хвалюе, што летась вельмі вырасла вулічная злачыннасць, хуліганствы. Калі ў 2014 годзе іх было толькі 3, то ў 2015-м ужо 10, – адзначае Сяргей Шытыка. – "Не так паглядзеў" ці "не так сказаў" – ужо нагода, каб збіць чалавека. Прычым вельмі жорстка.

Летась падчас прэзідэнцкіх выбараў у Маладзечне цяжка збілі двух мужчын, прычым аднаго вельмі цяжка. За што? Курылі каля бара, у гэты час міма праходзіла кампанія хлопцаў, і калі маладзёны папрасілі цыгарэту, ім сказалі, што няма. Тром падлеткам, якіх прызналі вінаватымі ў нападзе, прысудзілі шэсць гадоў пазбаўлення волі.

Ці яшчэ адзін красамоўны выпадак у Чысці. Пара закаханых, хлопец і дзяўчына, сталі каля пад'езда цалавацца. Мужчына, які стаў назіральнікам гэтага, зрабіў ім заўвагу. Маўляў, не самае лепшае месца для выказвання пачуццяў: ва ўсіх навідавоку. Хлопец збіў мужчыну да разрыву селязёнкі, потым вярнуўся да дзяўчыны, і яны працягнулі шпацыр. Мужчыну ж павезлі ў бальніцу на аперацыю. У выніку хлопец шэсць месяцаў знаходзіўся пад следствам, і атрымаў пазбаўленне волі з адтэрміноўкай выканання прыгавору.

– Такіх хуліганстваў, з цяжкімі альбо не цяжкімі наступствамі, летась было 10. У вобласці мы сярод першых па іх колькасці, – звяртае ўвагу начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх. І ўжо сёлета ёсць такія выпадкі.

Літаральна на мінулым тыдні, 17 сакавіка, двое падлеткаў, выпіўшы піва, ішлі па дарозе ў раёне Здземелева. З імі параўняўся 13-гадовы хлопчык. Ён проста прайшоў міма, ні слова ім не сказаў, яны таксама нічога яму не казалі. Ужо адышоў на метраў 50, калі адзін з іх зрываецца, бяжыць за хлопчыкам і збівае яго, пасля чаго вяртаецца да свайго сябра. Калі супрацоўнікі міліцыі спрабавалі высветліць, што на яго найшло, чаму ён накінуўся на хлопчыка, той адказаў: "Ён на мяне не так паглядзеў". А хлопчык зразумець не можа, як ён паглядзеў: "Не знаю, ну я ж з расплюшчанымі вачыма іду, можа і паглядзеў. Паглядзеў, і міма прайшоў".

– Прычым хлопец, які збіваў, ніколі не фігураваў у такіх справах. Што на яго найшло – незразумела, – кажа Сяргей Шытыка.

### Моладзь працягвае ўжываць наркотыкі

Калі летась было адно злачынства, звязанае з захаваннем і распаўсюджваннем наркотыкаў, то сёлета ўжо два.

Пераважна спажываюць маладыя людзі ад 15 да 30 гадоў. І самы праблемны наркотык, які яны ўжываюць, гэта спайсы. Ён хімічны і можа выклікаць залежнасць ужо пасля першага-другога ўжывання.

Спайсы вельмі складана вызначыць у арганізме чалавека. Можа быць відавочным, што чалавек паводзіць сябе неадэкватна, але аналізы нічога не паказваюць.

– Мы вельмі доўга назіралі за адным хлопцам, якога падазравалі ва ўжыванні наркотыкаў, размаўлялі з ім, з яго бацькамі. Нядаўна ён трапіў да нас за распаўсюджванне і атрымаў восем гадоў пазбаўлення волі. Хлопец малады, 19 гадоў, – расказвае Сяргей Шытыка. – Шмат "званочкаў" паступае нам з каледжаў. Калі навучэнцы прыходзяць на заняткі і паводзяць сябе неадэкватна.

У школах гэта праблема пакуль што стаіць не так востра. Верагодна, з-за таго, што працэй заўважыць, што з вучнем не ўсё ў парадку, а таксама з-за прапускной сістэмы, якая не дазваляе трапіць на ўстанову кожнаму ахвотнаму.

**Настасся РОЎДА.**

### Наколькі вырасла падлеткавая злачыннасць




### Навучальныя ўстановы, вучні якіх фігуравалі ў злачынствах у 2015 годзе

| | Колькасць удзельнікаў злачынстваў | Колькасць злачынстваў, учыненых удзельнікамі |
|---|---|---|
| СШ №2 | 1 | 6 |
| СШ №5 | 1 | 1 |
| СШ №8 | 1 | 3 |
| СШ №12 | 1 | 5 |
| СШ №14 | 1 | 1 |
| Маладзечанскі дзяржаўны каледж | 12 | 15 |
| Беразінскі аграрна-тэхнічны прафесійны ліцэй | 5 | 5 |
| Валожынскі сельскагаспадарчы прафесійны ліцэй | 1 | 1 |
| Красненская СШ | 1 | 3 |
| Чысцінская СШ | 1 | 1 |
| Радашкавіцкая школа-інтэрнат | 2 | 3 |
| Маладзечанскі дзяржаўны політэхнічны каледж | 5 | 5 |
| Маладзечанскі гандлёва-эканамічны каледж | 1 | 2 |



**Даведка "РГ". Аляксандр Бажко.** Нарадзіўся ў Маладзечне. Скончыў маладзечанскую СШ №2 з залатым медалём. Вучыўся на медыка-псіхалагічным факультэце Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта (1997-2003 г.), скончыў з чырвоным дыпломам. У 2001 годзе прайшоў медыцынскую практыку ў Гданьскай медыцынскай акадэміі. Атрымаў падрыхтоўку па гештальт-тэрапіі Маскоўскага гештальт інстытута. Прайшоў інтэрнатуру і спецыялізацыю на базе Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра псіхічнага здароўя, пасля чаго яму прысвоілі кваліфікацыю доктара-псіхіятра. Ад жніўня 2004 года працаваў у Маладзечанскім псіханеўралагічным дыспансеры на пасадзе доктара-псіхіятра-нарколага. Па сумяшчальніцтве працаваў доктарам-псіхіятрам выязной псіхіятрычнай брыгады станцыі "хуткай дапамогі", а таксама доктарам-псіхатэрапеўтам. Выкладаў у медыцынскім каледжы. У 2013 годзе скончыў клінічную ардынатуру на кафедры псіхіятрыі і медыцынскай псіхалогіі Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта па псіхіятрыі-наркалогіі. Ад 2013 года загадвае псіханеўралагічным дыспансерам, галоўны пазаштатны доктар-псіхіятр-нарколаг Маладзечанскага раёна. Яго прызналі лепшым доктарам-псіхіятрам Мінскай вобласці 2014 года, а таксама лепшым доктарам-псіхіятрам Беларусі 2014 года. Па выніках работы за 2015 год Маладзечанскі псіханеўралагічны дыспансер прызнаны лепшай установай аховы здароўя ў Маладзечанскім раёне.

# Шызафрэнія – не падстава ізаляваць

## Адсоўваем шырму з псіхіятрам Аляксандрам Бажко

**Як працуе мозг у чалавека, хворага на шызафрэнію? Дзе заканчваецца свабода выбару ў такога чалавека? Ці можна яго прымусіць лячыцца? Гэтыя і іншыя пытанні, якімі абрасла шызафрэнія, раскрываем у сённяшняй размове.**

Па статыстыцы, да кабінета псіхатэрапеўта даходзіць не больш за 30% усіх хворых на псіхічнае расстройства. "РГ" прыйшла на прыём да загадчыка Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера, доктара-псіхіятра-нарколага **Аляксандра Бажко** і папрасіла патлумачыць, што за хваробы хаваюцца за псіхічным расстройствам, калі трэба пачынаць іх баяцца і, галоўнае, як іх убачыць, пакуль не позна лячыць.

Шызафрэнія цікавая сваім нестандартным мысленнем. З-за гэтага нашых пацыентаў і асацыяруюць. У іх мозг працуе іначай. Калі даваць лагічную задачку, здаровыя людзі адкажуць прыкладна аднолькава, бо яны мысляць аднымі катэгорыямі.

Ружа, васілёк, незабудка, кошка. Што лішняе? Натуральна, большасць лічыць лішняй кошку, бо ўсё астатняе – кветкі.

На першым годзе маёй практыкі, у 2004 годзе, быў такі выпадак. Я размаўляў з пацыенткай і ўжо разумеў, што ў яе ёсць расстройства і што, хутчэй за ўсё, гэта шызафрэнія. Але патрэбны быў шэраг сімптомаў, бо дыягназ не напісаны на лбе. Я задаў ёй тое ж самае пытанне, толькі яшчэ паказаў выявы кветак і кошкі, і пацыентка адказала: "Кошка". У мяне з'явілася лёгкая прыкрасць, бо я адчуваў, што на верным шляху, але пазл не складваўся. Я ўжо хацеў скончыць з гэтым заданнем, збіраю карцінкі і паралельна задаю пытанне: "Чаму?" Адказвае: "Таму што яна можа быць чорнай, а я не люблю суседку". Спосаб мыслення зусім іншы, нестандартны. Калі я папрасіў патлумачыць адказ, яна распавяла, што ў яе двары жыве жанчына, якая трымае катоў, адзін з якіх – чорны. Калі мая пацыентка ідзе дамоў, гэты чорны кот пераходзіць ёй дарогу. Пацыентка лічыла, што менавіта з-за гэтага ёй не шанцуе. Менавіта таму яна і зрэагавала на гэтую карцінку, ніяк не звязваючы адказ з кветкамі.

Ці, напрыклад, калі нам трэба трапіць з Маладзечна ў Смаргонь. Звычайны чалавек паедзе ў бок Насілава і далей да Смаргоні, бо так найбліжэй. Чалавек з шызафрэніяй можа паехаць праз Вілейку зусім па нечаканай прычыне, бо ён жа ўсё адно трапіць у Смаргонь.

Пры шызафрэніі людзі могуць бачыць і чуць тое, чаго не бачаць і не чуюць іншыя – галюцынацыі. Чалавек, хворы на шызафрэнію, можа размаўляць з вамі і бачыць яшчэ трох чалавек, якія будуць яму казаць, што гаварыць, а пра што маўчаць.

Рэальны прыклад. Маладая дзяўчына прыйшла на ўрачэбна-кансультацыйную камісію. У яе быў цяжкі выпадак, трэба было вызначыцца са шматлікімі пытаннямі. Побач з двума дактарамі падчас размовы дзяўчына бачыла яшчэ трох персанажаў, да якіх яна час ад часу звярталася па імю. Вось гэта галюцынацыі. Прычым гэтыя персанажы хворы чалавек бачыць гэтак жа яўна, як і рэальных людзей, і не можа адрозніць, дзе персанаж, а дзе рэальны чалавек.

Тонкая мяжа. Калі не атрымліваецца ўстанавіць яе з дапамогай лекаў, тады трэба навучыць чалавека самому знаходзіць мяжу паміж рэальным і нерэальным.

### Вы яго бачыце? Бачу. Значыць, ён сапраўдны

Галюцынацыі вельмі выразна паказаныя ў фільме "Бліскучы розум", альбо "Гульні розуму" рэжысёра **Рона Ховарда**. Біяграфічная драма была намінаваная на "Оскар" у васьмі катэгорыях і ў чатырох перамагла. У тым ліку і як лепшы фільм. У ім распавядаецца пра вядомага матэматыка Джона Нэша, які атрымаў Нобелеўскую прэмію. Ён хварэў на шызафрэнію. У фільме ёсць такі эпізод: заканчваецца лекцыя, прафесар выходзіць у калідор, да яго звяртаецца мужчына. Перад тым, як адказаць, прафесар пытаецца ў студэнткі, ці бачыць яна гэтага чалавека. "Так, бачу", – кажа дзяўчына. Тады прафесар звяртаецца да гэтага чалавека: "Значыць, вы сапраўдны. Я з асцярогай стаўлюся да новых людзей. Ну, добры дзень. Чым магу быць карысны?"

Пры шызафрэніі людзі мяняюцца эмацыйна. Пад дзеяннем галюцынацый, галасоў чалавек можа не вытрымаць. Уявіце, калі вам хтосьці на вуха ўвесь час будзе казаць: "Разбі акно". Спачатку чалавек крытычна ацэньвае сітуацыю: "Не, лухта, не можа быць". А потым можа проста не вытрымаць, таму што ўвесь час у вушах адно і тое ж, заснуць складана, бо кожнае імгненне табе хтосьці не дае спакою. Гэтыя галасы, якія падштурхоўваюць да дзеянняў, і з'яўляюцца паказаннем для шпіталізацыі ў стацыянар.

Але зноў тонкая мяжа. Шызафрэнія – такое ж расстройства, як і іншыя. Чалавек прымае рашэнне сам, звяртацца ці не па дапамогу. Тым часам людзі, якія побач, хочуць экстраннай дапамогі. Яны баяцца за жыццё іх роднага з шызафрэніяй, баяцца за сваё жыццё, яны хочуць ад доктара-спецыяліста хуткіх экстранных рашэнняў, ізаляцыі: "Дык забярыце яго, адвязіце ў бальніцу". Але ізаляцыя – крытычная мера.

### Што гаворыць доктар пацыенту

Дапамагчы чалавеку захоўваць самакантроль можа дыспансерны ўлік. Наш доктар вядзе размовы са сваякамі хворых на шызафрэнію і расказвае, чаго чакаць, якія ёсць прадвеснікі пагаршэння.

Мы размаўляем з пацыентам, тлумачым, якія трэба прымаць лекі, якія ёсць правілы іх ужывання, гаворым пра тое, што калі ён перастане прымаць лекі, то праз нейкі час яму можа стаць горш. "Вы прымаеце лекі, маеце пэўныя пабочныя дзеянні, але ходзіце на працу, вы ўсё ж такі з'яўляецеся крыніцай даходаў вашай сям'і. Калі вы перастанеце кантраляваць прыём лекаў, ваш стан пагоршыцца, вы не зможаце працаваць, пазбавіцеся даходаў, сям'я не атрымае ніякай грашовай дапамогі ад вас". Вельмі важна навучыць чалавека адказнасці. Пры дыспансерным уліку чалавеку выпісваюць лекі на месяц. Пасля яму трэба прыйсці да доктара. Не для таго, каб сказаць, што "ўсё ў мяне добра", гэта таксама, але найперш для таго, каб доктар мог ацаніць стан пацыента і выпісаць лекі, каб не было перапынку ў прыманні.

Калі яму стала горш, калі ён забыўся прыняць лекі і не прыйшоў на прыём, мы тэлефануем самі. Калі пацыент не адказвае, высылаем запрашэнне, нагадваем, што яму трэба прыйсці на прыём, сустрэцца з доктарам. Ён можа прыйсці, а можа не прыйсці.

Вось гэта вечная дыскусія ў галіне псіхіятрыі, канфлікт паміж грамадствам і індывідыумам. Мы прызнаём права на рашэнне лячыцца ці не лячыцца, але чакаем ад чалавека пэўных паводзін. Паўстае пытанне, як ён можа прыняць правільнае рашэнне, калі ў яго па-іншаму працуе мысленне.

### Калі хворага трэба ізаляваць

У заканадаўстве выразна прапісаныя тыя выпадкі, калі насуперак волі чалавека яго могуць шпіталізаваць. Напрыклад, калі ён небяспечны для сябе ці навакольных. Калі чалавеку бачыцца пачвара, і ён можа схапіць сякеру і пабегчы за ёй. А гэтай "пачварай" можа быць нармальны чалавек. У гэтай сітуацыі хворы на шызафрэнію небяспечны. Яго трэба ізаляваць і змяшчаць у псіхіятрычную клініку незалежна ад таго, хоча ён гэтага ці не.

Такія выпадкі, дзе рэальная пагроза жыццю, ёсць. Але сярод людзей, у якіх ёсць псіхічнае расстройства, гэта пагроза меншая, чым сярод здаровых людзей. Таму гэта міф, што ўсе хворыя небяспечныя.

**Згодна са статыстыкай, на шызафрэнію хварэе 1% насельніцтва. Адпаведна, у Маладзечне хварэе каля 1000 чалавек.**

За маю практыку прыкладна раз на год у нашым дыспансеры адбываюцца сітуацыі, калі я вымушаны прымяніць меры фізічнага абмежавання, каб абараніць сваіх калег, пацыентаў ці сябе. У нас была сітуацыя, калі прыйшоў наш пацыент, напаўаголены і нецвярозы, і лаяўся перад касай. Я пачуў, выйшаў і папрасіў яго выйсці. Ён быў п'яны – гэта многае тлумачыць. У яго ёсць псіхічнае расстройства – гэта таксама многае тлумачыць. Але ў гэты канкрэтны час ён ствараў пагрозу. Пацыент вырашыў напасці на мяне, давялося прымяніць пэўную сілу, каб супакоіць яго.

Наша амбулаторная служба радзей прыбягае да такіх дзеянняў, а вось у "хуткай дапамозе" ёсць спецыялізаваная псіхіятрычная брыгада. Ім трэба быць гатовымі да любых нечаканасцяў, бо калі іх выклікаюць, то ўжо дакладна сітуацыя будзе нестандартная.

**Настасся РОЎДА.**

**Працяг будзе.**

НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ

## Юныя віляйчане сталі лаўрэтамі міжнароднага конкурсу "Музыкі святло"

ВІЛЕЙКА

Першы міжнародны конкурс-фестываль мастацтваў "Музыкі святло" прайшоў у Мінску 12-13 сакавіка.

Было больш за 300 удзельнікаў. Яны дэманстравалі свае таленты ў спевах, харэаграфіі, мастацкім чытанні, інструментальным выканальніцтве.

У намінацыі "Саліст-вакаліст" сярод удзельнікаў 14-15 год лаўрэатам першай ступені стала прадстаўніца Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў **Ірына Храмцова**. Выконвала яна на конкурсе кампазіцыю Fallin **Алішы Кіз**.

Такую ж узнагароду атрымалі ўдзельнікі ўзорнай эстраднай студыі "Экспромт" Вілейскага Палаца культуры ў намінацыі "Ансамблі". Поспех ім прынесла песня "Паравозік-воблачка".

Дыпломамі адзначылі іх настаўнікаў: **Нэлі** і **Алега Зайцавых**.

## Тэатралаў запрашаюць на капуснік

ВІЛЕЙКА

Да Міжнароднага дня тэатра у Палацы культуры 25 сакавіка адбудзецца тэатральны капуснік "Смяяцца, сапраўды, не грэшна". Дзіцячы і дарослыя тэатральныя калектывы Вілейшчыны пакажуць пароды, байкі, інсцэніроўкі, гумарыстычныя маналогі, жарты.

Пачатак – у 18 гадзін. Уваход вольны.

## Больш за 200 удзельнікаў выступіла ў танцавальным марафоне

ВІЛЕЙКА

У Палацы культуры 17 сакавіка ўпершыню прайшоў вілейскі танцавальны марафон "Час танцаваць".

Прынялі ў ім удзел каля двухсот дзяцей і дарослых. Прадэманстравалі сваё майстэрства такія калектывы, як "Авангард", дзіцячая і дарослая групы "Фарсажу", "Вілляна" і "Карагод" з гімназіі №2, "Вяснушкі" і "Вулічны балет" з Палаца культуры і "Людвіданс" з Людвінова.

Паказалі яны разнастайныя танцы: ад хіп-хопа да чарльстона, ад брэйк-данса да ўсходніх танцаў.

Удзельнікі атрымалі дыпломы за ўдзел, а іх кіраўнікі – падзякі.

– На мой погляд, першы танцавальны марафон прайшоў з поспехам і даставіў радасць удзельнікам, гледачам і арганізатарам, – кажа намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

Плануецца, што такі фестываль будзе праводзіцца штогод. Ужо думаюць над канцэпцыяй другога танцавальнага марафону.

## З коўкай па метале і лялькамі землякі сталі лепшымі ў вобласці

ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Ва Уздзе прайшоў абласны этап рэспубліканскага прафсаюзнага конкурсу творчасці працоўных калектываў "Новыя імёны Беларусі-2016".

У намінацыі "Выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва" два першыя месцы ўзялі прадстаўнікі рэгіёна. Пераможцам **Канстанцін Пятроўскі** з Валожыншчыны (коўка па метале). Другое месца заняла педагог дадатковай адукацыі Вілейскага дзяржаўнага каледжа **Анастасія Міхайлава**. Яе адзначылі за інтэр'ерныя аўтарскія лялькі.

У намінацыі "Сцэнічнае майстэрства" нашы землякі ў тройку лепшых не трапілі. Але вакальная група лакаматыўнага дэпо Маладзечна ўвайшла ў лік удзельнікаў, якіх таксама запрасілі ў фінал рэспубліканскага конкурсу, паведаміў каардынатар праекта "Новыя імёны Беларусі-2016" **Глеб Лапіцкі**.

## Фотамастак прапануе прайсціся па слядах Першай сусветнай

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім музеі народнай славы праходзіць фотавыстава "Беларусь. Сляды Першай сусветнай". На ёй прадстаўленыя працы фотамастака з Пастаў **Васіля Белякова**.

На выставе можна паглядзець больш за 100 здымкаў абарончых збудаванняў часоў Першай сусветнай вайны, якія захаваліся на тэрыторыі Мядзельскага, Смаргонскага і Пастаўскага раёнаў.

Працягнецца выстава да 9 красавіка.

Алесь ВЫСОЦКІ.



Фота Настассі РОЎДЫ.

На першы кастынг прыйшлі 13 дзяўчат. Далей за званне Міс Маладзечна будуць змагацца 12. Таму арганізатары прызначылі яшчэ адзін дадатковы кастынг.

# Міс Маладзечна-2016. Патрэбны яшчэ адзін кастынг

МАЛАДЗЕЧНА

**У суботу, 19 сакавіка, адбыўся першы адбор удзельніц на конкурс "Міс Маладзечна-2016".**

Насуперак чаканням арганізатараў, на кастынг прыйшло ўсяго 13 дзяўчат.

Але адна з удзельніц адмовілася ад далейшага ўдзелу тут жа.

Сёлета ў папярэдні адбор арганізатары ўключылі творчы нумар. За тры хвіліны ўдзельніцы павінны былі прадэманстраваць свае творчыя здольнасці. Дзяўчаты спявалі, чыталі вершы і прозу, танцавалі, гралі на гітары, скрыпцы, віяланчэлі.

Пасля гэтага адбылося дэфіле ў купальніках, і журы спатрэбіўся час на тое, каб вырашыць, хто з дзяўчат пройдзе ў далейшы этап конкурсу.

Журы справілася за пяць хвілін. Як толькі дзяўчаты выйшлі на сцэну, яно вынесла свой вердыкт: пакуль усе працягваюць удзел у конкурсе. Аднак на наступным кастынгу, які адбудзецца 3 красавіка, гэтыя ж дзяўчаты павінны будуць удзельнічаць на агульных умовах з іншымі.

– Мы, канешне, не чакалі, што адгукнецца так мала дзяўчат, – кажа метадыст Палаца культуры **Таццяна Цагалка**, – таму і вырашылі правесці яшчэ адзін дадатковы кастынг.

Пра дзяўчат, што прыйшлі на першы кастынг, яна адказала, што самым малодшым удзельніцам – 16 гадоў, самай старэйшай – 23. Сярод удзельніц ёсць як школьніцы, студэнткі, так і тыя, хто працуе.

Фінал конкурсу адбудзецца 26 мая ў амфітэатры. А да гэтага дзяўчаты павінны цалкам змяніць свой лад жыцця на два месяцы.

– У раскладзе нашых міс тры разы на тыдзень харэаграфія, два разы на тыдзень – дэфіле. Акрамя таго, у раскладзе запланаваныя фотасесіі, майстар-класы, удзел у розных дабрачынных акцыях, мерапрыемствах.

Сёлетні конкурс ад мінулагадовага будзе адрознівацца тым, што ў яго праграму ўключаць творчы конкурс.

– Леташні конкурс паказаў тое, што візітоўка можа быць расцягнутая і нудная.

Творчы ж нумар, на думку арганізатараў, будзе больш відовішчным.

– Самае цікавае ў конкурсе, – кажа Таццяна Цагалка, – тое, што да апошняга моманту не ведаеш, хто ж з дзяўчат стане міс. На кастынг, бывае, прыходзяць такія сціплыя і шэранькія, а за два месяцы так раскрываюцца, што я сама іх не пазнаю.

**Другі кастынг адбудзецца 3 красавіка ў 11:00 у Палацы культуры. Даведкі па тэлефоне 74-62-42.**

Наталля ТУР.



Фота Настассі РОЎДЫ.

У конкурсе "Творчы нумар" дзяўчаты-ўдзельніцы дэманстравалі свае таленты. Лізавета Данілава, напрыклад, танцавала.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Карына Арловіч спявала сумную песню пра каханне.

## Дзень таты адбыўся ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**На свяце "Містэр Талент-2016", якое арганізаваў маладзечанскі цэнтр творчасці "Маладзік ", галоўная роля адводзілася татам.**

Конкурс адбыўся ў рамках праекта "Калідорныя дзеці".

Пра тое, як прайшоў конкурс, распавяла кіраўніца тэатральнай студыі "Казка" **Галіна Іванькіна**.

"Калі мне дарадца патрэбны, тата вельмі дальнабачны. Ён практычны, дасціпны і да таго ж мужчына відны", – распавяла пра свайго бацьку **Валерыя Ластоўскага** ў конкурсе "Знаёмства" дачка **Мілана**.

А **Дар'я Мілашэвіч** разам з братам **Даніілам** прадставілі тату Віктара Мілашэвіча наступным чынам:

*Мне тата прыносіць цацкі, цукеркі,*
*Але тату люблю я зусім не за гэта.*
*Вясёлыя песні ён мне напявае,*
*Нам сумна ўдваіх ніколі не бывае!*
*Ён у паходы з намі ходзіць,*
*Час для нас заўжды знаходзіць,*
*Самы спрытны, самы смелы.*
*Ён спартыўны і умелы.*

Пра сваіх тат **Сяргея Дзяржаўнага**, **Андрэя Абрамовіча**, **Віталя Круплевіча** распавялі іх сыны **Аляксей, Кірыл і Данііл**. Кожны падкрэсліваў, што іх тата – майстра на ўсе рукі і што лепшага таты ў свеце няма.

У конкурсе "Я і мой тата" дзецям і татам прапанавалі даведацца, наколькі добра яны ведаюць адзін аднаго. Адно і тое ж пытанне задавалася і тым, і тым. У гэтым конкурсе таты і іх дзеці даведаліся, што больш за ўсё таты любяць праводзіць час на рыбалцы, у лесе, збіраючы грыбы, глядзець па тэлевізары футбол, хакей.

Любімае адзенне і ў дзяцей, і ў татаў – джынсы. А на абед і тыя, і тыя любяць есці пюрэ з катлетай і... сала.

А самае страшнае пакаранне, якога баяцца дзеці ад таты – гэта зусім не дзяга, а адключэнне камп'ютара.

Але на пытанне вядучай, каб дзецям прапанавалі выбраць дзень з татам або дзень за камп'ютарам, усе выбралі першы варыянт – правесці цэлы дзень з татам.

Наступны конкурс быў "Тата – кухар". У ім яны адказвалі па білеціку на пытанні па веданні кулінарыі. Гэта і пытанні пра тое, якія бываюць салаты і як іх зрабіць, як прыгатаваць варэнікі, як правільна адварыць сасіскі, і іншыя. Вядома, усе справіліся з гэтым заданнем на "выдатна".

Конкурс "Умелыя рукі" быў хатнім заданнем. Таты павінны былі прынесці на конкурс працу, зробленую сваімі рукамі.

Тут вызначыліся тата Сяргей Дзяржаўны, які рэканструяваў старадаўнія гадзіннікі, абсталяваўшы іх арыгінальнай падсветкай, і тата Віктар Мілашэвіч, які прадставіў сталярную працу "дыназаўрыка".

Завяршальным этапам конкурсу "Містэр Талент-2016" быў конкурс "Хвіліна славы", дзе таты павінны былі ўдзельнічаць разам з іх сем'ямі з арыгінальным нумарам.

Перад гэтым конкурсам на ўра прайшло бліц-апытанне на ўменне чытаць хуткамоўкі.

А лепшым выступленнем у конкурсе "Хвіліна славы" стала выступленне Сяргея Дзяржаўнага з сынам Аляксеем, дзе яны паказалі ўрывак з казкі Леаніда Філатава "Пра Фядота-Стральца".

У выніку "Містэрам Талент-2016" стаў Сяргей Дзяржаўны разам з сынам Аляксеем. На другім месцы – Віктар Мілашэвіч, на трэцім – Валеры Ластоўскі.

Скончылася свята "салодкім сталом", арганізаваным СШ №5. Праходзіў ён на базе інтэрната на вуліцы Замкавай, 21.

**Наталля ТУР.**
**Фота глядзіце на сайце**

Rh.by




Фота забяспечана Галінай ІВАНЬКІНАЙ

Напрыканцы мерапрыемства – абавязковая "сямейнае" фота.

# Далучайцеся да летніка для інвалідаў-вазочнікаў

**Цяпер ідзе набор курсантаў на ўдзел у летніку-семінары.**

Такое мерапрыемства – адзінае падобнага роду ў Беларусі.

У межах летніка цягам 10 дзён удзельнікі з усіх рэгіёнаў краіны вучацца самастойна жыць у інвалідным вазку і ў соцыуме.

Навучанне праводзяць інструктары асацыяцыі інвалідаў-вазочнікаў, якія таксама перасоўваюцца ў інвалідных вазках.

Самая асноўная задача для арганізатараў – дастукацца да тых інвалідаў, якія сядзяць дома і не жадаюць нікуды выходзіць. Завабіць іх удзельнічаць у летніку сапраўды нялёгка.

Таму мы імкнёмся як мага больш распаўсюдзіць нашу аб'яву аб наборы ў летнік, каб сваякі, сябры і знаёмыя інвалідаў-вазочнікаў заахвоцілі іх удзельнічаць.



Фота lifehacker.ru

Навучыцеся, як расшырыць свае магчымасці. Незалежна ад абставінаў.

**Летнік актыўнай рэабілітацыі пройдзе ад 25 чэрвеня да 5 ліпеня на базе Палескага ўніверсітэта ў Пінску Брэсцкай вобласці.**

Удзел у мерапрыемстве, у тым ліку пражыванне і харчаванне, – бясплатныя. Кожны з удзельнікаў атрымае неабходныя веды і навыкі самастойнага жыцця ў інвалідным вазку: як кіраваць ім, як займацца фізкультурай і спортам. Атрымаюць таксама асноўныя юрыдычныя веды і навыкі самаабслугоўвання.

Акрамя гэтага ўдзельнікі на свае вочы ўбачаць станоўчыя прыклады паўнавартаснага жыцця ў вазку. Цягам усяго летніка будуць жыць побач і гутарыць з паралімпійскімі чэмпіёнамі, бізнесменамі-інвалідамі, з людзьмі, якія, нягледзячы на вазок, стварылі сем'і і нарадзілі дзяцей, атрымалі адукацыю і маюць добрую працу.

Адабраныя ўдзельнікі, якія не атрымлівалі раней інвалідны вазок актыўнага тыпу, атрымаюць яго падчас летніка-семінара.

Атрыманыя веды і ўменні стымулююць удзельнікаў летніка-семінара пераацаніць жыццёвыя каштоўнасці і стаць на актыўную пазіцыю, весці паўнавартасны і незалежны лад жыцця.

Для ўдзелу ў летніку-семінары неабходна запоўніць анкету на сайце raik.by і даслаць яе на электронную пошту: inna.digilevich@gmail.com або па факсе **(017) 3921189**.

Вітаецца дадатак да анкеты – сваё фота. Калі няма выхаду ў інтэрнэт, то анкету можна запоўніць вусна па тэлефоне **(8017) 392-11-89, (8029) 109-17-69.**

Удзел у летніку бясплатны. У летнік-семінар абяруць 30 удзельнікаў.

Летнік арганізоўвае рэспубліканская асацыяцыя інвалідаў-вазочнікаў пры падтрымцы Міністэрства спорту і турызму і Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.

**Яўген ШАЎКО,**
**старшыня рэспубліканскай асацыяцыі інвалідаў-вазочнікаў.**

## У Вілейцы пройдзе канферэнцыя, прысвечаная Павіллю

ВІЛЕЙКА

**У Вілейцы 9 красавіка намечана правесці канферэнцыю "Вілія-Neris: досвед трансгранічнага супрацоўніцтва".**

Удзел прымуць беларускія і літоўскія навукоўцы, удзельнікі экспедыцыі "Шляхам Тышкевіча", мясцовыя краязнаўцы, спецыялісты.

На канферэнцыі ўдзельнікі выступяць з дакладамі і пакажуць прэзентацыі на розныя тэмы, датычныя Павілля: ад гістарычных да экалагічных.

На сённяшні дзень заявілі 11 дакладаў. Самай галоўнай падзеяй канферэнцыі будзе прэзентацыя кнігі прафесара з Вільні **Вікінтаса Вайткявічуса**, якую ён напісаў па выніках экспедыцыі 2007 года.

– Хочацца запрасіць цікаўных людзей на канферэнцыю, – кажа нязменны кіраўнік экспедыцыі "Шляхам Тышкевіча" **Міхаіл Петух**. – Знойдзем час пагаварыць фармальна і нефармальна, завесці новыя сувязі – з тым, каб пашырыць кола ўдзельнікаў экспедыцыі і прыцягнуць увагу зацікаўленых структур. Хочацца, каб знайшліся людзі, якія ўрэшце больш сур'ёзна возьмуцца за арганізацыйна-камерцыйныя моманты, і каб у выніку атрымаўся сур'ёзны маршрут з сур'ёзным абгрунтаваннем.

Галоўнай задачай канферэнцыі Міхаіл Петух лічыць тое, каб людзі маглі ўбачыць, што вандроўкі па Віліі – гэта цікава:

– Вілія аб'ядноўвае ў сабе фактычна ўсю гісторыю: ад самых старажытных часоў да сённяшніх. І адначасова яна з'яўляецца трансгранічнай: аб'ядноўвае народы Літвы і Беларусі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Першая экспедыцыя "Шляхам Тышкевіча" прайшла ў 2007 годзе. Прымеркавалі яе да 150-годдзя вядомага падарожжа па Віліі краязнаўцы графа Канстанціна Тышкевіча. Ад таго часу экспедыцыя праводзіцца штогод.

# Даўгінава. Галакост у час Другой сусветнай вайны

*Пачатак у №11.*

**Працяг публікацыі нашага земляка гісторыка Аляксандра Плавінскага, прысвечанай гісторыі Даўгінава. У хуткім часе пабачыць свет кніга гэтага аўтара пра мястэчка.**

Мы ж прапануем газетны варыянт працы навукоўца.



Фота http://www.eilatgordinlevitan.com.

Даўгінава, 1906 год. Сям'я Шапіраў. Галава сям'і Шлома Шапіра, яго жонка Хая Рыша. Большасць з тых, хто на гэтым здымку, не перажылі Галакосту. Фота з архіва праўнука Шломы і Хаі Шапіраў Стывена Давыдава.

### Галакост

Згодна з аналізам палітычнай абстаноўкі, у лістападзе 1941 года ў месячным паведамленні камандуючы вермахта "Остланд" пісаў аб яўрэйскім насельніцтве: "...З-за таго, што яны разам з камуністамі і партызанамі робяць агульную справу, то падлягаюць поўнаму знішчэнню як чужыя для нацыі элементы. Да гэтага часу ў гэтых мэтах былі праведзеныя акцыі ва ўсходняй частцы Беларусі, на старой рускай тэрыторыі і на чыгуначнай лініі Мінск-Брэст. Акрамя таго, на тэрыторыі камендaнта Беларусі ў сельскай мясцовасці, у буйных населеных пунктах для яўрэяў ствараюцца гета".

З першых месяцаў вайны яўрэйскае насельніцтва, без выключэння, стала па-за законам. Яго пазбавілі ўсіх грамадзянскіх правоў. Для зносін з яўрэямі і рэалізацыі акупацыйнай палітыкі ў іх асяроддзі немцы стварылі юдэнрат. Усе яўрэйскія дамы былі пазначаныя словам JUDEN, пісьмовымі вялікімі літарамі. Яўрэяў абавязалі насіць на вопратцы спераду і ззаду жоўтыя зоркі. Ім забаранялася хадзіць па ходніках. Кожны дзень яўрэяў ганялі на прымусовыя работы. Для максімальнага выкарыстання на працах іх перыядычна проста адлоўлівалі на вуліцах. Пасля падобных аблаў многія больш не вярнуліся...

Нягледзячы на патрабаванні Гітлера аб "канчатковым вырашэнні яўрэйскага пытання", Вільгельм Кубэ, кіруючыся эканамічнымі меркаваннямі, меў смеласць уносіць у іх карэктывы. Яўрэяў расстрэльвалі не ўсіх і не адразу. Першапачаткова акупацыйныя ўлады выкарыстоўвалі іх на рознай чорнай працы.

**Да канца 1941 года ў Вілейскай вобласці, як і па ўсёй Беларусі ў буйных населеных пунктах, была створаная сетка гета, у якія немцы зганялі мірных грамадзян-яўрэяў.**

У Даўгінава з іншых населеных пунктаў даходзіла жудасная інфармацыя аб расправах над яўрэямі. Напрыклад, пра тое, як у верасні 1941 года загінулі яўрэі ў Зембіне, недалёка ад Барысава. Там немцы стварылі гета, якое праіснавала крыху больш за месяц. У мястэчку расстралялі 927 яўрэяў. А праз некалькі дзён знішчылі яўрэяў у Крайску і Лагойску. Затым у пачатку кастрычніка ўсіх яўрэяў з Плешчаніцаў вывезлі ў лес пад Барысавам і там расстралялі. У другой палове кастрычніка 1941 гады ў Куранцы былі забітыя 54 яўрэі.

Знішчэнне яўрэйскага насельніцтва праводзілася рэгулярна як у Вілейцы, так і ў іншых паселішчах – Ілы, Борках, Любчы, Старынках, Брыгідаве, Вязыні.

Найбольш дасведчаныя і ініцыятыўныя яўрэі паспявалі схавацца ад расстрэлаў. Так зрабілі шмат хто ў Плешчаніцах, калі іх своечасова папярэдзілі аб расправе, якая насоўвалася. Большасць з іх знайшлі сабе прытулак у Даўгінаве. Сupляменнікі гасцінна адчынілі для бежанцаў свае жыллё. Амаль у кожны яўрэйскі дом прыходзілі ацалелыя ўцекачы з іншых мястэчак. Колькасць яўрэяў у Даўгінаве стала хутка павялічвацца і дасягнула каля трох тысяч чалавек.

Даўгінаўскія яўрэі добра разумелі, што сумная доля неўзабаве дагоніць іх і тут. Шмат хто пачаў ствараць схóвішчы для сябе і членаў сям'і на выпадак будучага пагрому.

Адно з такіх сховішчаў было зробленае ў хляве Ёзэфа Крэмера. Яго асноваю стала выкапаная ў зямлі глыбокая яма памерам чатыры на чатыры метры. У ёй былі зробленыя моцныя сцены і перакрыцце. Гэтае сховішча добра замаскіравалі. Другое сховішча было пабудаванае ўнутры кароўніка. У ім зрабілі падвойныя сцены, паміж якіх яўрэі хаваліся падчас першага і другога пагромаў...

Неўзабаве стварылі гета і ў Даўгінаве. Яно было акружанае драўляным плотам, па-над якім нацягнулі калючы дрот. Паліцыя старанна ахоўвала гета. Нягледзячы на тое, што яго плошча была вельмі маленькай, праз яго прайшлі некалькі тысяч чалавек.

**Каб выцягнуць у яўрэяў каштоўнасці, немцы некалькі разоў патрабавалі ў іх выкуп і затым на некаторы час адпускалі тых, хто павёўся на падман.**

Многія з іх сапраўды верылі, што ад немцаў можна было адкупіцца.

Пасля расстрэлу 12 сакавіка 1942 года яўрэяў у мястэчку Ілья стала зразумела, што хутка чарга дойдзе і да Даўгінава. Таму два дзесяткі маладых хлопцаў вырашылі сысці ў лес да партызанаў.

14 сакавіка 1942 года яны адправілі Лейбу Міндэля і Якава Сягальчыка паспрабаваць дамовіцца з надзейным чалавекам, каб ён звязаў яўрэйскую моладзь мястэчка з партызанамі.

Але сыход з Даўгінава двух яўрэяў не застаўся незаўважаным, іх сталі шукаць.

**Аляксандр ПЛАВІНСКІ,**
**гісторык.**
**Працяг будзе.**

---

### КАЛЯНДАР

**25 САКАВІКА**
**Дзень Волі.**

**26 САКАВІКА**
**1896 год.** Нарадзіўся Казімір Кулак (вёска Кудзераўшчына, цяпер Сакольскі павет Падляскага ваяводства), доктар тэалогіі, каталіцкі святар, грамадска-рэлігійны дзеяч, актывіст беларускага студэнцкага руху міжваеннага дваццацігоддзя. У 1914 годзе скончыў Дуброўскую вышэйшую пачатковую школу. У 1915-м паступіў у Віленскую каталіцкую семінарыю. 30 мая 1920 года быў пасвечаны ў святары. Ад 1923 года служыў вікарыем у Троках і выкладаў Закон Божы ў мясцовай школе. Ад часу вучобы ў семінарыі быў звязаны з беларускім нацыянальна-рэлігійным рухам. Вучыўся ў Папскім Усходнім універсітэце ў Рыме, дзе ў 1927 годзе абараніў доктарскую дысертацыю. Падчас вучобы ў Рыме падарыў Папскай бібліятэцы ў Ватыкане "Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі" Вацлава Ластоўскага. Вёў з ім перапіску, а Вацлаў Ластоўскі меў планы "стварыць уласную беларускую веру". Арыштоўваўся нямецкімі ўладамі. Памёр у 1989 годзе.

**27 САКАВІКА**
**Вялікдзень** (па календары каталіцкай канфесіі).
**165 гадоў** з дня нараджэння Аляксея Сапунова (1851 – 1924), беларускага гісторыка, археографа, краязнаўца, грамадскага дзеяча.
**1891** год (ці 26 красавіка). Нарадзіўся Клаўдзій Дуж-Душэўскі (Глыбокае), беларускі палітычны дзеяч, дыпламат, рэдактар, педагог. Лічыцца аўтарам бел-чырвона-белага сцяга.

**29 САКАВІКА**
**75 гадоў** з часу прыняцця (1941) пастановы Савета Народных Камісараў СССР аб стварэнні ў Мінску Цэнтральнага дзяржаўнага архіва фотафонакінадакументаў (з 1963 года – Цэнтральны дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў, з 1987 года – у Дзяржынску, з 1993 года – Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў).

**31 САКАВІКА**
**60 гадоў** з часу прыняцця (1956) пастановы Савета Міністраў БССР і ЦК КПБ аб стварэнні ў Мінску Цэнтральнай лабараторыі мікрафотакапіравання і рэстаўрацыі дакументальных матэрыялаў цэнтральных дзяржаўных архіваў БССР (з 2000 года – Цэнтральная лабараторыя мікрафотакапіравання і рэстаўрацыі дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Расклад руху цягнікоў ад 27 сакавіка 2016 года



## Цягнікі рэгіянальных шляхоў зносін

**Маладзечна-Мінск**

| № цяг-ніка | Час ад-праўлення | Час прыбы-цця | Прыпынкі, дні курсіравання |
|---|---|---|---|
| 6102 | 4:14 | 5:59 | б/п Селівонаўка |
| 6104 | 5:11 | 6:58 | |
| 6108 | 5:42 | 7:29 | |
| 6110 | 6:45 | 8:42 | |
| 6112 | 7:33 | 9:21 | |
| 6114 | 8:59 | 10:47 | |
| 7032 | 9:38 | 10:59 | **Прыпынкі:** Ждановічы, Мінск Паўночны |
| 6116 | 9:58 | 11:53 | |
| 6118 | 11:12 | 12:59 | |
| 6120 | 13:02 | 14:49 | |
| 6122 | 14:57 | 16:44 | |
| 6124 | 15:45 | 17:33 | |
| 6126 | 16:45 | 18:33 | |
| 6128 | 18:01 | 19:50 | |
| 6130 | 19:09 | 20:55 | |
| 6132 | 19:42 | 21:30 | |
| 6134 | 20:53 | 22:37 | |
| 7036 | 21:34 | 22:54 | **Гудагай-Маладзечна** з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны, далей **Маладзечна-Мінск** з прып. Ждановічы, Мінск Паўночны |
| 6136 | 22:17 | 23:55 | **б/п** Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка |

**Мінск-Маладзечна**

| № цяг-ніка | Час ад-праўлення | Час пры-быцця | Прыпынкі, дні курсіравання |
|---|---|---|---|
| 6101 | 0:30 | 2:10 | **б/п** Татаршчызна, Селівонаўка |
| 6103 | 4:39 | 6:10 | **б/п** Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка Анусіна, Вязынка, Пралескі |
| 6105 | 5:24 | 7:07 | |
| 7033 | 6:10 | 7:28 | **Мінск-Мал-на з прып. Ждановічы, Мінск Паўн. далей д.ц. да Гудагая, б/п Гаўці, Скрэсціна, Каменка** |
| 6107 | 6:23 | 8:15 | |
| 6109 | 7:20 | 9:11 | |
| 6111 | 8:57 | 10:43 | |
| 6113 | 9:52 | 11:38 | |
| | | | |
| 6115 | 11:33 | 13:17 | |
| 6117 | 12:48 | 14:35 | |
| 6119 | 14:40 | 16:25 | **б/п** Селівонаўка |
| 6121 | 15:36 | 17:23 | |
| 6123 | 16:19 | 18:11 | |
| 7035 | 18:05 | 19:27 | **ад Мінска да Маладз. з прып. Ждановічы, Мінск Паўночны, далей Мал-на-Гудагай, з прып. па станцыях і п.п. Маладзёжны** |
| 6125 | 17:35 | 19:19 | |
| 6127 | 18:15 | 20:07 | **б/п** Зялёнае |
| 6129 | 19:14 | 21:06 | |
| 6131 | 20:45 | 22:31 | |
| 6133 | 22:15 | 0:03 | **б/п** Мясата, Татаршчызна, Крыніца, Селівонаўка |

**Цягам перыяду дзеяння графіка магчымыя змяненні. Тэлефоны чыгуначнага вакзала ст. Маладзечна для даведак: (80176) 74-24-23, 105.**



## Пасажырскія цягнікі

| № цягніка | Маршрут руху | Адпраўленне з пачатковай станцыі | Па ст. Маладзечна: Прыбыццё | Стаянка | Адпраўленне | Прыбыццё на канцавую станцыю | Дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 633Ф | **Магілёў-Гродна** | 19:08 | 1:25 | **3** | 1:28 | 6:02 | няцотныя |
| 623Б | **Віцебск-Гродна** | 18:57 | 1:25 | **3** | 1:28 | 6:02 | цотныя |
| 677 | **(п/в Масква) Мінск-Гродна** | 1:30 | 2:44 | **4** | 2:48 | 8:00 | штодзённа |
| 77Щ | **Масква-Гродна** | 16:36 | 3:46 | **3** | 3:49 | 8:39 | па днях |
| 148Ч | **Калінінград-Масква** | 17:29 | 3:00 | **2** | 3:02 | 14:57 | па днях |
| 29Ч | **Масква-Калінінград** | 17:20 | 4:21 | **2** | 4:23 | 14:00 | штодзённа |
| 626Б | **Віцебск-Мінск** | 21:38 | 4:26 | **26** | 4:52 | 6:28 | штодзённа |
| 360Ч | **Калінінград-Адлер** | 19:33 | 5:00 | **2** | 5:02 | 8:27 | серада, субота |
| 79Ч | **С.-Пецярбург-Калінінград** | 16:13 | 5:49 | **14** | 6:03 | 15:50 | па днях |
| 88РБ | **Рыга-Мінск** | 20:20 | 6:32 | **27** | 6:59 | 8:19 | няцотныя |
| 673Б | **Мінск-Гродна** | 7:01 | 8:03 | **2** | 8:05 | 11:43 | штодзённа |
| 804 | **Вільня-Мінск** | 7:20 | 8:48 | **2** | 8:50 | 9:50 | штодзённа |
| 805Б | **Мінск-Вільня** | 8:00 | 8:58 | **2** | 9:00 | 10:30 | штодзённа |
| 801Б | **Мінск-Вільня** | 8:10 | 9:11 | **2** | 9:13 | 11:59 | субота, нядзеля |
| 147Ч | **Масква-Калінінград** | 22:38 | 9:39 | **2** | 9:41 | 19:14 | па днях |
| 683Б | **Полацк-Мінск** | 6:28 | 10:06 | **30** | 10:36 | 11:42 | пятніца |
| 630Б | **Гродна-Мінск** | 6:25 | 10:26 | **2** | 10:28 | 11:29 | штодзённа |
| 803Б | **Мінск-Вільня** | 11:10 | 12:08 | **2** | 12:10 | 13:57 | штодзённа |
| 808Т | **Вільня-Мінск** | 15:58 | 17:46 | **2** | 17:48 | 18:45 | штодзённа |
| 629Б | **Мінск-Гродна** | 16:50 | 17:59 | **2** | 18:01 | 22:06 | штодзённа |
| 674Б | **Гродна-Мінск** | 15:15 | 18:58 | **2** | 19:00 | 20:02 | штодзённа |
| 683Б | **Мінск-Полацк** | 17:10 | 18:22 | **28** | 18:50 | 22:28 | пятніца |
| 80Ч | **Калінінград-С.-Пецярбург** | 10:29 | 20:22 | **14** | 20:36 | 11:09 | па днях |
| 806Т | **Вільня-Мінск** | 19:12 | 20:40 | **2** | 20:42 | 21:42 | штодзённа |
| 807Б | **Мінск-Вільня** | 19:52 | 20:52 | **2** | 20:54 | 22:22 | штодзённа |
| 634Б | **Гродна-Магілёў** | 15:51 | 21:20 | **4** | 21:24 | 5:00 | няцотныя |
| 624Б | **Гродна-Віцебск** | 15:51 | 21:20 | **4** | 21:24 | 4:50 | цотныя |
| 625Б | **Мінск-Віцебск** | 21:32 | 22:46 | **27** | 23:13 | 6:55 | штодзённа |
| 78Б | **Гродна-Масква** | 16:53 | 21:50 | **4** | 21:54 | 9:35 | па днях |
| 359С | **Адлер-Калінінград** | 20:39 | 22:53 | **2** | 22:55 | 8:37 | серада, нядзеля |
| 30Ч | **Калінінград-Масква** | 13:47 | 23:19 | **2** | 23:21 | 9:38 | штодзённа |
| 87БР | **Мінск-Рыга** | 22:25 | 23:33 | **29** | 00:02 | 10:00 | цотныя |
| 802Т | **Вільня-Мінск** | 21:05 | 23:48 | **2** | 23:50 | 0:49 | субота, нядзеля |
| | | | | | | | |
| 772 | **Маладзечна-Мінск** | 6:37 | 7:36 | штодзённа | | | |
| 774 | **Маладзечна-Мінск** | 20:27 | 21:25 | нядзеля | | | |
| 773 | **Мінск-Маладзечна** | 18:58 | 19:53 | штодзённа | | | |

## Цягнікі рэгіянальных шляхоў зносін

| **Маладзечна-Гудагай** | | | | **Гудагай-Маладечна** | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цяг-ніка | Час адпраў-лення | Час пры-быцця | Прыпынкі, дні курсіравання | № цяг-ніка | Час адпраў-лення | Час пры-быцця | Прыпынкі, дні курсіравання |
| 7031 | 6:25 | 7:40 | **Штодзённа** з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны | 6882 | 5:40 | 7:14 | **Штодзённа** |
| 7033 | 7:41 | 9:11 | **Штодзённа Мінск-Гудагай** Мінск-Маладзечна з прыпын. Мінск Паўночны, Ждановічы, далей Маладзечна-Гудагай б/п: Гаўці, Скрэсціна, Каменка | 7032 | 8:20 | 9:35 | **Штодзённа Гудагай-Мінск** Гудагай-Маладзечна з прыпын. па станцыях і п.п Маладзёжны, далей Маладзечна-Мінск з прыпын. Ждановічы, Мінск Паўночны |
| 6881 | 8:27 | 10:24 | **Штодзённа** | 7034 | 9:37 | 10:52 | **Штодзённа** з прыпынкамі па станцыях і п.п Маладзёжны |
| 6883 | 12:22 | 13:18 | У **рабочыя** да Смаргоні | 6884 | 10:44 | 12:20 | **Штодзённа** |
| 6885 | 13:42 | 15:19 | У выхадныя | 6886 | 13:49 | 14:45 | У **рабочыя** са Смаргоні |
| 6887 | 15:43 | 17:21 | **Штодзённа** да Гудагая | 6888 | 15:37 | 17:19 | У выхадныя |
| 6889 | 17:53 | 19:31 | **Штодзённа** | 6890 | 17:41 | 19:20 | **Штодзённа** |
| 7035 | 19:30 | 20:48 | **Штодзённа** з Мінска Мінск-Маладзечна з прыпынкамі Мінск Паўночны, Ждановічы, далей Маладзечна-Гудагай з прыпынкамі па станцыях і п.п Маладзёжны | 7036 | 20:14 | 21:30 | **Штодзённа** Гудагай-Мінск Гудагай-Маладзечна з прыпынкамі па станцыях і п.п Маладзёжны, Маладзечна-Мінск з прыпынкамі Ждановічы, Мінск Паўночны |
| 6891 | 20:32 | 22:17 | **Штодзённа** | 6892 | 21:26 | 23:04 | **Штодзённа** |
| **Маладзечна-Ліда** | | | | **Ліда-Маладзечна** | | | |
| | | | | 6262 | 4:08 | 7:09 | **Штодзённа** |
| 6261 | 8:38 | 11:37 | **Штодзённа** | | | | |
| 6263 | 12:41 | 15:33 | У выхадныя | 6264 | 8:40 | 11:45 | **Штодзённа** |
| | | | | 6266 | 12:19 | 15:19 | У выхадныя |
| 6265 | 18:21 | 21:20 | **Штодзённа** | 6268 | 15:48 | 18:45 | **Штодзённа** |
| 6267 | 20:39 | 23:37 | **Штодзённа** | | | | |
| **Маладзечна - Крулеўшчына - Полацк** | | | | **Крулеўшчына - Маладзечна** | | | |
| 6626 | 9:02 | 11:18 | **Штодзённа** | 6622/ 6621 | 4:56 | 7:19 | **Штодзённа** адпраўленнем з Глыбокага в **04:00** |
| | | 13:16 | Прыбыццё ў Полацк | | | | |
| 6684 | 12:41 | 14:55 | У выхадныя да Крулеўшчыны | 6683 | 15:16 | 17:43 | У выхадныя |
| 6676 | 16:14 | 16:49 | У **рабочыя** да Вілейкі | 6683 | 17:08 | 17:43 | У **рабочыя** з Вілейкі |
| 6630/ 6631 | 20:13 | 22:27 | **Штодзённа** | 6625 | 17:28 | 19:31 | Штодзённа |
| | | 23:06 | Прыбыццё ў Глыбокае | | | 15:33 | Адпраўленне з Полацка |

# "Гэта былі скачкі насустрач смерці"

## Прайшла канферэнцыя да 100-годдзя Нарачанскай аперацыі

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

**Трагічныя падзеі стогадовай даўніны прыгадалі падчас міжнароднай навукова-гістарычнай канферэнцыі "Нарачанская аперацыя 1916 года: гісторыя і сучаснасць".**

Пачалося ўсё 17 сакавіка ў Мінску – з міжнародных гістарычных чытанняў "Гісторыя ў імя міру". У той жа дзень удзельнікі канферэнцыі наведалі пахаванні рускіх воінаў на Мядзельшчыне.

Працягнулі паездку назаўтра. Але адразу адбылася паніхіда па загінулых воінах у царкве ў Занарачы. Айцец Анатоль паіменна ўзгадаў пахаваных на нарачанскай зямлі салдат і афіцэраў, імёны якіх удалося ўстанавіць.

Удзельнікі канферэнцыі пабывалі на месцах баёў.

– Тут такія балоты былі, што ў журавіны цяжка было прайсці. Асабліва ў тых мясцінах, дзе 100 год таму сібіракі ішлі ў наступленне. Там такія балоты! Гэта цяпер ужо асушылі. Не ўяўляю, як яны там наступалі, – прыгадвае **Яўген Антановіч**, які доўгі час працаваў у Занарацкай школе.

На могілках у вёсцы Чарэмшыцы пахавана каля 900 салдат і афіцэраў рускай арміі. Ушанавалі іх памяць хвілінай маўчання, усклалі кветкі і вянок. Прагучалі залпы салютнай групы.

Таксама наведалі пахаванні нямецкіх воінаў у вёсках Пронькі.

– Гэтыя могілкі – следства Нарачанскай аперацыі. Помнік на могілках пачынаюць будаваць ужо ў красавіку 1916 года, – расказвае вядомы даследчык і фатограф **Уладзімір Багданаў**. – 14 мая ён ужо гатовы. Вось што такое нямецкі падыход па ўвекавечанні памяці сваіх салдат.

Пабывалі і на могілках вёскі Нарач (Кабыльнік).

### На канферэнцыю прыехаў з Манчэстара

У курортным пасёлку Нарач (Купа) прайшлі пленарнае пасяджэнне і праца ў секцыях. Сабралася каля 80 удзельнікаў – з Беларусі, Расіі, Літвы, Вялікабрытаніі.

Навуковец з Масквы **Аляксандра Грыгараў** прыехаў не толькі зрабіць даклад і падзяліцца звесткамі, а і пабачыць мясціны, дзе ў сапёрным батальёне ваяваў яго дзед. Той быў паранены паміж азёрамі Мядзел і Нарач.

Бацька **Франка Плешака** з Манчэстара нарадзіўся непадалёку, у Швакштах. Франк цікавіцца гісторыяй Першай сусветнай у нашым рэгіёне, папулярызуе яе. На гэты раз прыехаў адмыслова на канферэнцыю.

Навукоўцы і краязнаўцы прадставілі даклады на разнастайныя тэмы. Падкрэслівалі важнасць і трагізм аперацыі, раскрывалі раней невядомыя факты.

Краязнавец **Генадзь Малышаў** нагадаў вядомае выслоўе: "Вайна не скончаная, пакуль не пахаваны апошні салдат".

– Што значыць быць пахаваным? Мінімум павінен быць крыж, прозвішча і дата смерці. Ніхто не гаворыць пра манументы і іншае. А стан нямецкіх пахаванняў на нашай зямлі нашмат лепшы, чым пахаванняў нашых абаронцаў…

Уладзімір Багданаў прэзентаваў кнігу "Бітва ля Нарачы. 1916". У выданні каля 300 старых фотаздымкаў і ля 500 – сучасных, багата раней невядомых фактаў.

Пазнаёміў ён са звесткамі з нямецкіх крыніц пра абставіны аперацыі, якія раскрываюць жахі тых падзей:

"Першыя нямецкія снарады ляглі пасярод рускіх калон і "карэ". Целы і часткі цел рускіх закуляліся ў паветры, быццам смерч наляцеў на стог саломы. Першы масавы штурм захлынуўся, і толькі храбрыя рускія камандзіры, якія не жадалі ўпускаць перамогу, па адным і групамі спрабавалі скачкамі пераадолець ураган нямецкага загараджальнага агню. Але гэта былі скачкі насустрач смерці".

Пра ўвагу да Нарачанскай аперацыі сведчыць і тое, што 6 красавіка пазіцыі немцаў наведалі замежныя карэспандэнты: два амерыканцы, па адным галандцу, шведу і іспанцу.

"Іх фотаапаратам было вельмі шмат працы, паколькі такія горы трупаў ім яшчэ нідзе не даводзілася бачыць", цытуе нямецкія крыніцы Уладзімір Багданаў.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Паказваюць прыёмы рукапашнага бою.

**Вадзім Шышко** з Пастаў падкрэслівае:

– Гэта вайна – не другая сусветная. Яна ў многім больш разнастайная і супярэчлівая.

І прыводзіць шмат успамінаў мясцовых жыхароў – як, напрыклад, **Зінаіды Шыман** з Пастаў:

"У Казьянях немцы стаялі, а ў нашай вёсцы стаялі рускія. Вот немцы апавяшчаюць гэтых казьянскіх людзей, што ад'язджайце, будзем "пух-пух", будзем страляць, ваяваць з рускімі. Вывезуць самі. А адна жанчына ражаць начала, а ні каня, нікога нет. Дык яны запрагліся, афіцэр запрог салдат і яны восем кіламетраў гэту жанчыну вязлі да фельчара нямецкага ў тыл, каб радзіць".

Ад нашага рэгіёна шмат удзельнікаў канферэнцыі было з Мядзельшчыны: **Вадзім Праўрацкі, Святаслаў Гаўрыс, Уладзімір Серадзінскі, Валянцін Радзевіч, Людміла Ярмаковіч** і іншыя. З Вілейкі, апроч навуковых супрацоўнікаў краязнаўчага музея **Андрэя Каркоткі** і **Вольгі Коласавай**, даклад падрыхтавала вучаніца сярэдняй школы №1 **Аляксандра Шатлікава**. Занялася навуковай працай яна пад кіраўніцтвам настаўніцы **Марыны Жыльцовай**.

– Вельмі зацікавіла тое, што буйныя аперацыі праходзілі непадалёку ад нас на Вілейшчыне і Мядзельшчыне, – расказвае Аляксандра. – Пабывала ў мясцінах, звязаных з Першай сусветнай. Асабліва было цікава ў **Барыса Цітовіча** ў Заброддзі.

### Акопная творчасць нямецкіх салдат

На канферэнцыі былі не толькі даклады: паказалі прыёмы рукапашнага бою, на выставах можна было пабачыць фотаздымкі тых часоў, вайсковую амуніцыю і рыштунак. Сярод іх – і самаробныя ножыкі з надпісамі.

– Гэта, што называецца, акопная творчасць: тое, што немцы рабілі з паяскоў са снарадаў, – тлумачыць загадчык музеяў агратурыстычнага комплексу "Наносы-Наваселле" **Віктар Майсяёнак**. – На выставе арыгінальныя рэчы. Іх знайшлі на тэрыторыі Нарачанскага краю. У нас ёсць задума стварыць музей Першай сусветнай вайны.

Галоўнымі арганізатарамі канферэнцыі сталі Нацыянальны парк "Нарачанскі" і Мядзельскі райвыканкам.

– Цалкам падтрымліваю думку Уладзіміра Багданава, што да сённяшняга дня грамадская памяць аб падзеях стогадовай даўніны знаходзіцца на вельмі нізкім узроўні з-за недахопу і памылковасці інфармацыі. Таму адна з галоўных мэт канферэнцыі – зменшыць белую пляму гэтага перыяду нашай гісторыі, – кажа намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага парку "Нарачанскі" па навуковай рабоце **Валеры Люштык**. – Канферэнцыяй тэму не закрываем. Як будуць з'яўляцца новыя матэрыялы, будзем іх даводзіць да грамадскасці.

У суботу, 19 сакавіка, канферэнцыя працягнулася ў Паставах.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

---

# Выстава да 80-гадовага юбілею архітэктара Леаніда Левіна адкрылася ў Мінску

МАЛАДЗЕЧНА

**У гістарычнай майстэрні, што носіць імя Леаніда Левіна, 17 сакавіка адкрылася выстава "Вайна і каханне".**



Фота Наталлі ТУР.

Дачка Леаніда Левіна Галіна ля стэнда, на якім пазначаныя самыя вядомыя і знакавыя работы архітэктара. Сярод іх і маладзечанскі "Шталаг-342".

"Вайна і каханне" – гэта гісторыя кахання бацькоў архітэктара, якая прасочваецца ў іх ваенных лістах, фотаздымках, паштоўках.

– Імя Леаніда Левіна, – сказала галоўны спецыяліст упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь **Людміла Лебедзь**, – даўно стала для беларускай культуры імем намінальным. І калі б не было ў беларускай архітэктуры Левіна, гэта азначала б толькі адно, – у культуры Беларусі з'явіўся агромністы пралом.

На выставе на адным са стэндаў прадстаўленыя самыя знакавыя працы архітэктара. Сярод іх – маладзечанскі "Шталаг 342". Акрамя таго, Леанід Левін з'яўляецца аўтарам мемарыяльнага комплексу "Хатынь", помніка дзецям, якія загінулі ў гады вайны. Помнік усталяваны ў вёсцы Чырвоны Бераг у Жлобінскім раёне. Левін – аўтар шэрагу помнікаў у Мінску. Леанід Левін праектаваў станцыі метро "Няміга" і "Плошча Леніна". Яго аўтарству належаць помнікі Янку Купалу і Якубу Коласу.

– Усе яго працы аб'ядноўвае адно, – падкрэсліла Людміла Лебедзь, – побач з нявыказаным трагізмам крочыць надзея.

У пацвярджэнне слоў Людмілы Лебедзь дастаткова ўспомніць і праект мемарыяла "Шталаг 342", дзе краты, якімі закрытае неба, абрываюцца, даючы надзею на вызваленне, свабоду.

У інтэрв'ю "Рэгіянальнай газеце" Людміла Лебедзь расказала, што цяпер яна абмяркоўвае з дачкой Леаніда Левіна **Галінай** стварэнне экскурсійнага маршруту па помніках і мемарыялах аўтарства Леаніда Левіна. Калі маршрут будзе складзены, Маладзечна абавязкова ўвойдзе ў яго.

На ўрачыстым адкрыцці выставы прысутнічала дачка Галіна і ўдава Леаніда Левіна **Наталля**, **Алон Шохам**, часовы паверанны ў справах Дзяржавы Ізраіль у Беларусі, **Артур Зельскі**, дырэктар мемарыяльнага комплексу "Хатынь", **Пётр Юнге-Вентруп**, дырэктар IBB - Dortmund, **Віктар Балакіраў**, старшыня дырэкцыі Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханаса Раў, і многія іншыя.

Кожны з тых, хто выступаў з прывітальным словам, гаварыў пра Леаніда Левіна, як пра чалавека невычэрпнай дабрыні, пра тое, што ён пакінуў нам у спадчыну свае праекты, чарцяжы, а значыць, справа Леаніда Левіна працягвае жыць. Пётр Юнге-Вентруп падкрэсліў, што на першым месцы сярод іншых спраў стаіць задача завяршыць будаўніцтва мемарыяльнага комплексу "Трасцянец".

Закончылася імпрэза паказам фрагмента фільма пра Леаніда Левіна "Вайна і каханне".

На жаль, прысутным паказалі толькі невялікі фрагмент фільма, які здымаўся яшчэ пры жыцці Леаніда Левіна.

Супрацоўніца гістарычнай майстэрні **Антаніна Чумакова** расказала, што гэты фільм толькі аднойчы быў паказаны па тэлебачанні і наступная магчымасць убачыць цалкам, а таксама сустрэцца з яго аўтарамі **Вольгай Дашук** і **Уладзімірам Марозам** будзе 31 сакавіка з 15:00 у гістарычнай майстэрні.

Тут можна будзе паглядзець і выставу. Яна будзе працаваць да канца года.

Гістарычная майстэрня імя Леаніда Левіна месціцца па вуліцы Сухой, 25. І працуе яна ад панядзелка да пятніцы з 10:00 да 16:30. Уваход вольны.



**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
80176 769667 (працоўны)

НАВІНЫ

## ФК "Смаргонь" згуляе з "Іслаччу"

СМАРГОНЬ

У таварыскім матчы 18 сакавіка "Смаргонь" дома прымала дубль салігорскага "Шахцёра" і выйграла 3:1.

У смаргонцаў галы забілі **Аляксей Лазко**, **Аляксандр Клешчанок** і **Арцём Кіслы**.

Наступны матч намечаны на 26 сакавіка. "Смаргонь" згуляе з "Іслаччу". Пачатак сустрэчы на стадыёне ДЮСШ у мікрараёне "Заходні" – у 14:00, паведаміў прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч**.

## Камандам рэкамендуюць усё ж згуляць матчы

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

У вышэйшай лізе чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе не адбыліся матчы апошняга тура. Таму па факце адмовы камандаў ад удзелу ў гульнях апошняга тура на нарадзе Упраўлення спорту і турызму аблвыканкама і Галоўнай суддзейскай калегіі прынялі рашэнне настойліва рэкамендаваць камандам правесці гэтыя матчы 26 сакавіка.

## У спартакіядзе перамагла каманда Нарацкага сельсавета

МЯДЗЕЛ

У райцэнтры прайшла раённая спартакіяда сярод сельскіх жыхароў.

Прынялі ў ёй удзел дзевяць камандаў. Спаборнічалі яны ў мініфутболе, дартсе, настольным тэнісе, узніманні гіры і стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі.

У міні-футболе перамагла каманда Нарацкага сельсавета. У спаборніцтвах па гіравым спорце перамог **Віталь Камянецкі** са Свірскага сельсавета, у стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі – **Уладзімір Зелянкевіч** (Занарацкі), па дартсе – **Уладзімір Дземяшкевіч** (Крывіцкі) і **Святлана Мычко** (Нарацкі), па настольным тэнісе – **Руслан Шафіеў** (Нарацкі) і **Ала Роўда** (Сваткаўскі савет).

У агульнакамандным заліку перамаглі прадстаўнікі Нарацкага сельсавета. На другім месцы – каманда Занарацкага, на трэцім – Свірскага савета.

Пра гэта паведаміў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама **Леанід Шыдлоўскі**.

## Наперадзе – матчы на выбыванне

МЯДЗЕЛ

Завяршыўся папярэдні этап чэмпіянату раёна па міні-футболе.

Каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму перамагла прадстаўнікоў Крывіцкага спецПТВ №3 закрытага тыпу 3:1. Каманда райвыканкама была мацнейшая за "Юнацтва" 3:0. "Спадарожнік" абыграў "Сілавік" 6:2. "ІП Мядзел" прайграў "Зубраняці" 1:2.

"Зубраня" і "Спадарожнік" занялі першае і другое месцы і адразу выйшлі ў паўфінал, расказаў дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак**.

Каманды, якія занялі з трэцяга па шостае месцы, згуляюць у чвэрцьфіналах. "ІП Мядзел" супраць "Сілавіка" і райвыканкам супраць "Юнацтва".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Смаргонь прымае юных футбалістаў з чатырох краін

СМАРГОНЬ

Ад 24 да 26 сакавіка ў Смаргоні праходзіць міжнародны дзіцячы турнір па футболе. Юныя футбалісты 2005 і 2006 гадоў нараджэння разыграюць два камплекты ўзнагарод.

Прымаюць удзел каманды з Эстоніі, Літвы, Расіі і Беларусі.

– Такі маштабны турнір пройдзе ўпершыню. Яго плануюць зрабіць рэгулярным, – расказвае прэс-аташэ "Смаргоні" Уладзімір Амбрасевіч.

Арганізавала турнір Смаргонская ДЮСШ па футболе. Гульні праходзяць на стадыёне ДЮСШ у мікраараёне "Заходні".

## Ільянцы гулялі "на рэспубліцы"

ВІЛЕЙКА

Ад 18 да 20 сакавіка ў Лідзе праходзіў фінальны турніру "Залатая шайба" ў малодшай узроставай групе ў дывізіёне Б. Удзельнічалі каманды з рэгіёнаў, якія не маюць лядовых арэн.

"РГ" паведамляла, што з Міншчыны трапіла на турнір каманда Вілейскага раёна. Прадстаўлялі яе вучні 2003-2004 гадоў нараджэння Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця.

Каманда з Вілейшчыны заняла пятае месца. А перамаглі прадстаўнікі Дзятлаўскага раёна, паведамляе БЕЛТА.

**Аддзел інфармацыі.**

# Першы дамашні матч "Іслач" згуляе 2 красавіка

МАЛАДЗЕЧНА

**Сезон 2016 года дорыць аматарам футбола сустрэчу з лепшымі беларускімі футбольнымі клубамі. Іх будзе прымаць на гарадскім стадыёне прадстаўнік Мінскага раёна – "Іслач".**



Фота з сайта vk.com.

Каманда "Іслач" напярэдадні сезона час не губляе. На фотаздымку момант сустрэчы з міскім "Тарпеда".

Пры ўсёй павазе да кожнага з мяркуемых гасцей, у іх шэрагах вылучаюцца лідары айчыннага футбола: барысаўскі БАТЭ, мінскае "Дынама" і салігорскі "Шахцёр".

Таму для маладзечанскіх аматараў футбола прапусціць матчы напрыканцы мая, напрыканцы чэрвеня і на пачатку лістапада будзе зусім няправільна.

Сярод астатніх удзельнікаў лігі найбольшую цікавасць выклікаюць бабруйская "Белшына", якая заінтрыгавала новымі спонсарамі з Расіі, ФК "Мінск", які ўзначаліў былы трэнер зборнай **Георг Кандрацьеў**, і гродзенскі "Нёман", куды перайшоў лепшы снайпер за гісторыю чэмпіянатаў **Раман Васілюк**.

Вельмі цікавымі будуць два першыя дамашнія матчы "Іслачы". Доўгачаканае адкрыццё сезона пройдзе ў кампаніі навапалацкага "Нафтана", а потым у наш горад прыедзе сталічны прыватны піяр-праект "Крумкачы".

Матчы супраць мазырскай "Славіі" і жодзінскай "Тарпеда-БелАЗа" адметныя тым, што гэтыя калектывы ўзначальваюць вядомыя беларускія спецыялісты **Юры Пунтус і Ігар Крывушэнка**, якія прыводзілі да чэмпіёнства БАТЭ.

Сустрэчы з брэсцкім "Дынама" і ФК "Віцебск" цікавыя абласным статусам супернікаў, а вось паядынкі з ФК "Гарадзея" і мікашэвіцкім "Гранітам", наадварот, цікавыя пасялковым статусам гэтых камандаў.

Нарэшце, на завяршэнне сезона, на развітанне з балельшчыкамі прыедзе ФК "Слуцк".



Сяргей ГАЙКОВІЧ.
E-mail:

### Каляндар дамашніх матчаў футбольнага клуба "Іслач" у вышэйшай лізе

| | |
|---|---|
| 2 красавіка (субота) | Нафтан (Наваполацк) |
| 17 красавіка (нядзеля) | Крумкачы (Мінск) |
| 30 красавіка (субота) | Дынама (Брэст) |
| 11 ці 12 мая (чацвер) | Белшына (Бабруйск) |
| 22 ці 25 мая (серада) | БАТЭ (Барысаў) |
| 5 чэрвеня (нядзеля) | Славія (Мазыр) |
| 16 чэрвеня (чацвер) | Гарадзея |
| 25 чэрвеня (субота) | Дынама (Мінск) |
| 6 жніўня (субота) | Граніт (Мікашэвічы) |
| 21 жніўня (нядзеля) | Віцебск |
| 10 верасня (субота) | Мінск |
| 25 верасня (нядзеля) | Нёман (Гродна) |
| 22 кастрычніка (субота) | Тарпеда-БелАЗ (Жодзіна) |
| 6 лістапада (нядзеля) | Шахцёр (Салігорск) |
| 27 лістапада (нядзеля) | Слуцк |

## Плыўцы з Вілейкі і Маладзечна перамаглі

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

У Маладзечне 18 сакавіка адбылося адкрытае першынство Мінскай вобласці па выратаванні на вадзе і плаванні брасам.

Спаборнічалі спартсмены з 19 камандаў. Першынство прайшло ў два этапы.

Па выніках адкрытага першынства па выратаванні на вадзе перамагла каманда з Вілейскага раёна. У асабовым заліку першым стаў **Аляксей Смолік**, другім – **Аляксандр Бірыла**. Абодва яны з Вілейкі. Яшчэ адзін прадстаўнік Вілейскага раёна **Уладзіслаў Амелін** увайшоў у дзясятку наймацнейшых, паведамілі з Вілейскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях.

У першынстве Мінскай вобласці па плаванні брасам перамогу атрымалі плыўцы з Маладзечна. Трэцяе месца за камандай з Вілейкі. У гэтым відзе каманду Вілейскага раёна прадстаўлялі **Мікіта Ніжнік і Максім Шашок**.



Фота mchs.gov.by

Ідуць спаборніцтвы па выратаванні на вадзе.

У асабовым заліку перамог **Кірыл Руды** з Маладзечна, дадае абласное ўпраўленне па надзвычайных сітуацыях.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# На сайце “Рэгіянальнай газеты” з’явілася рубрыка “Наш рамонт”


Фота sovetclub.ru

З новай рубрыкай “Рэгіянальнай газеты” рамонт будзе прыносіць толькі задавальненне.

**Усе людзі рана ці позна сутыкаюцца з рамонтам. І тут пачынаецца самы хвалюючы момант у жыцці кожнай сям’і.**

Дзе знайсці спецыялістаў, якія змогуць зрабіць работу якасна? Дзе набыць будаўнічыя матэрыялы па аптымальных цэнах? Як зрабіць рамонт сваёй мары?

Цяпер знайсці спецыялістаў, якія дапамогуць зрабіць рамонт якасна, падабраць мэблю і аксесуары для дома, дапаможа новая рубрыка “Рэгіянальнай газеты” – “Наш рамонт”. У артыкулах вы зможаце даведацца пра асаблівасці кожнай паслугі, паглядзець фотаздымкі работ спецыялістаў. У каментарах вы можаце дзяліцца ўражаннем пасля пакупак у пэўных магазінах альбо пасля таго, як скарысталіся пэўнымі паслугамі.

На сайце ёсць шэсць падобных праектаў. Рубрыка “Усё для дамашніх любімцаў” дапаможа атрымаць карысную інфармацыю тым, у каго ёсць дамашнія жывёлы. Калі не ведаеце, дзе адзначыць урачыстасць, звяртайцеся да рубрыкі “Пальчыкі абліжаш”. Рубрыка “Стыль і прыгажосць” падкажа жанчынам, як заставацца прыгожай. Аўтааматарам прыйшлася даспадобы рубрыка “Пад капотам”. Рубрыка “Усё для нашых дзетак” падкажа, дзе знайсці дзіцячыя тавары.

**Аддзел інфармацыі.**



ТЭАТРЫ

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**МІЖНАРОДНАМУ ДНЮ ТЭАТРА ПРЫСВЯЧАЕЦЦА**

**ПРЭМ’ЕРА!**
**“Плачу наперад”** (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*
27 сакавіка – у 17:00

**“Любоў па-італьянску”** (трагікамедыя ў 2-х дзеях па матывах п’есы Э. дэ Філіпа “Цыліндр”), *Эдуарда дэ Філіпа*
29 сакавіка – у 19:00



Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.
УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

“**Канёк-гарбунок**” (чарадзейная казка, на рускай мове,) *П. Яршоў*
27 сакавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**
МАТЛ “Батлейка” УНП 600136804

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 3 | | 4 | 2 | 6 | | | |
| 2 | 6 | | | | 7 | | 9 | |
| 8 | | | | | | | | |
| | | | | | | 5 | 4 | |
| 6 | | 1 | | | | 2 | | 9 |
| | 5 | 8 | | | | | | |
| | | | | | | | | 5 |
| | 4 | | 5 | | | | 2 | 6 |
| | | | 7 | 6 | 8 | | 3 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



КІНО

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, камедыя “**Смяшарыкі. Легенда аб залатым драконе**” (3D, Расія, 2016, без узроставых абмежаванняў)
25 сакавіка – у 10:30,15:00
26 сакавіка – у 13:00
27 сакавіка – у 14:00
30 сакавіка – у 17:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, прыгоды “**Кракнутыя канікулы**” (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
24 сакавіка – у 10:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя, сямейны “**СуперБабровы**” (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25, 26 сакавіка – у 17:00
28, 30 сакавіка – у 19:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, сямейны “**Вавёркі ў справе**” (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
26 сакавіка – у 15:00
27 сакавіка – у 16:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Баявік, трылер, крымінал “**Падзенне Лондана**” (ЗША, Вялікабрытанія, 2016, пасля 16 год)
27, 29 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік, прыгоды “**Бэтман супраць Супермэна: На досвітку справядлівасці**” (3D, ЗША, 2016, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
25, 26 сакавіка – у 19:00, 22:00
27, 29 сакавіка – у 18:00
28, 30, 31 сакавіка – у 21:00
Цана: 60 000 – 65 000 рублёў

Прэм’ера! Драма, ваенны “**Герой**” (Расія, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
31 сакавіка – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя “**Рабінзон і дзевяць Пятніц**” (Грузія, Азербайджан, 2015, пасля 16 год)
29 сакавіка – у 17:00
Цана білета: 40 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, сямейны “**Вавёркі ў справе**” (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
25 сакавіка – у 13:30
26 сакавіка – у 16:00
Цана: 30 000 – 35 000 рублёў

Камедыя, сямейны “**СуперБабровы**” (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26 сакавіка – у 14:00
27 сакавіка – у 14:30, 19:30
29 сакавіка – у 19:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Баявік, трылер, крымінал “**Падзенне Лондана**” (ЗША, Вялікабрытанія, 2016, пасля 16 год)
25 сакавіка – у 18:30
26 сакавіка – у 21:00
28, 30 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 50 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік, прыгоды “**Бэтман супраць Супермэна: На досвітку справядлівасці**” (3D, ЗША, 2016, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
25 сакавіка – у 15:30, 21:00
26, 28, 30 сакавіка – у 18:00
27 сакавіка – у 16:30, 21:30
29 сакавіка – у 21:30
31 сакавіка – у 18:30
Цана: 55 000 – 65 000 рублёў

Прэм’ера! Камедыя “**Памятаю – не памятаю**” (Расія, 2016, пасля 16 год)
24 сакавіка – у 18:30
Цана білета: 50 000 рублёў

Тэлефон: (80176) **77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр “Мір”, Вілейка

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, камедыя “**Смяшарыкі. Легенда аб залатым драконе**” (3D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
25, 27 сакавіка – у 13:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Мультфільм, камедыя “**Вавёркі ў справе**” (3D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
25 сакавіка – у 14:30
26, 27 сакавіка – у 14:40
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік, прыгоды “**Бэтман супраць Супермэна: На досвітку справядлівасці**” (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 сакавіка – у 16:40, 21:00
26 сакавіка – у 18:00
27 сакавіка – у 16:20, 20:50
Цана білета: 60 000 рублёў

Камедыя, сямейны “**СуперБабровы**” (2D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 сакавіка – у 19:30
26 сакавіка – у 16:20
27 сакавіка – у 19:10
Цана білета: 25 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, прыгоды “**Кракнутыя канікулы**” (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
26 сакавіка – у 13:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер “**Дэдпул**” (2D,ЗША, Канада, з 18 год)
26 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды “**Прыгоды Гекльберы Фіна**” (Геманія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 сакавіка – у 14:00
26 сакавіка – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Драма “**Бабу**” (Беларусь, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 сакавіка – у 17:30
26 сакавіка – у 17:00
27 сакавіка – у 16:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Фантастыка “**04:44 Апошні дзень на Зямлі**” (ЗША, з 16 год)
25 сакавіка – у 18:50
27 сакавіка – у 19:20
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік “**Ганмэн**” (ЗША, Іспанія, з 18 год)
25 сакавіка – у 20:20
26 сакавіка – у 20:00
27 сакавіка – у 20:40
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя “**Пятрушка і яго сябры**” (Расія, без узроставых абмежаванняў)
26, 27 сакавіка – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя “**Рабінзон і 9 пятніц**” (Грузія, Азербайджан, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
26 сакавіка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Ваенная драма “**Пра Пятра і Паўла**” (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
27 сакавіка – у 17:50
Цана білета: 20 000 рублёў

Тэлефон: (801771) **5-68-59**

ГАРАСКОП
25-31 САКАВІКА

**Авен.** Вучыцеся трымаць у руках сябе і свае эмоцыі, каб не рабіць балюча блізкім, сябрам, калегам. Перамога над сабой дасць вам шмат шанцаў.

**Цялец.** Вы вельмі актыўныя, пастаянна пачынаеце новыя справы, кідаеце і зноў берацеся. Вы хочаце ўсё паспрабаваць, зрабіць, даведацца, але проста не хапае сіл і часу. Гэта вымотвае вас. Знайдзіце адзіны цікавы для вас занятак і прысвяціце сябе яму.

**Блізняты.** Ваша галоўная задача – зрабіць так, каб навакольныя не пакуталі ад вашай гардыні. І ўладзьце ўсялякія канфліктныя сітуацыі. Вы ўбачыце, як вам адразу стане лягчэй.

**Рак.** Вам трэба зрабіць важны выбар. Вы даўно чакалі нейкай прапановы і хутка яе атрымаеце. Няхай вас не мучаць сумненні, пагаджайцеся. Каб усё атрымоўвалася, напаўняйце сваё сэрца любоўю і цеплынёй.

**Леў.** Дзякуючы сваёй здольнасці разумець матывы людзей, вы можаце лёгка выйсці з любых складаных сітуацый і дапамагчы выйсці іншым. А дзякуючы праніклівасці зможаце вырашыць шмат важных пытанняў.

**Дзева.** У вас адносіны з другой палавінкай зайшлі ў тупік? Адпусціце сітуацыю, дайце вашым адносінам працякаць спакойна і праяўляйце больш мяккасці ў характары.

**Шалі.** Не мітусіцеся як знешне, так і ўнутры сябе і пастарайцеся ні пра што не клапаціцца, захоўвайце мір і гармонію.

**Скарпіён.** Не кідайце справы на палавіне шляху. Падзеі хоць і будуць нязначнымі, але яны закладуць падмурак для далейшага прасоўвання.

**Стралец.** У асабістым жыцці перыяд застою, а ў справах, наадварот, будзе спадарожнічаць поспех.

**Казярог.** Не нервуйцеся па дробязях. Прымайце дапамогу і дапамагайце.

**Вадалей.** Перыяд не з лёгкіх, але цяжкасць яго не ў вялікай колькасці спраў, а ў накапленні стомленасці, якая цягнецца даволі даўно. І ўсё ж вы зможаце вырашыць даўнія спрэчкі, наладзіць адносіны і прыйсці да агульнага меркавання адносна важных пытанняў.

**Рыбы.** Находзіць адсутнасць радасці і расчаравання, а менавіта стан, калі нічога не трэба і не хочацца. Перачакайце гэты перыяд.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

